ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 40 (2502)
ПЯТНІЦА
3
ліпеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Кузьма Чорны. Фрагмент з карціны Х. Ліўшыца.

**Кузьма Чорны. Праходзяць гады, і ўсё ярчэй паўстае гэты выдатны пісьменнік у гісторыі нашай літаратуры, у гісторыі ўсёй беларускай культуры. Вось чаму так шырока і любоўна адзначае зараз рэспубліка 70-годдзе з дня яго нараджэння.**

Матэрыялы, прысвечаныя гэтай даце, чытайце на стар. 10—13.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**2 ліпеня 1970 года адкрыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС.**

**Пленум заслухаў даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС тав. Л. І. Брэжнева «Чарговыя задачы партыі ў галіне сельскай гаспадаркі».**

**У спрэчках па дакладзе выступілі: тт. П. Я. Шэлест — першы сакратар ЦК Кампартыі Украіны, Г. С. Залатухін — першы сакратар Краснадарскага крайкома КПСС, Д. А. Кунаеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана, Г. І. Воранаў — старшыня Савета Міністраў РСФСР, А. В. Каваленка — першы сакратар Арэнбургскага абкома КПСС, Б. Я. Бутома — міністр суднабудаўнічай прамысловасці СССР, Ш. Р. Рашыдаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Узбекістана, Т. К. Мальбахаў — першы сакратар Кабардзіна-Балкарскага абкома КПСС, П. М. Машэраў — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, А. В. Георгіеў — першы сакратар Алтайскага крайкома КПСС, В. П. Мжаванадзе — першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі.**

**Пленум ЦК КПСС працягвае работу.**

## ад пятніцы да пятніцы

# ДОБРЫ ГУСТ, СУЧАСНЫ СТЫЛЬ

*НА ВЫСТАЎЦЫ «ЗРОБЛЕНА Ў ПОЛЬШЧЫ». МІНСК, 1970.*



У аддзеле цацкі польскай выстаўкі.

Фота Ул. КРУКА.

У даўняй дружбе жывуць дзве дзяржавы-суседкі—Народная Польшча і Савецкая Беларусь. Братнія сувязі паміж імі з кожным днём пашыраюцца і мацнеюць. І выстаўка гэта—наглядная таму ілюстрацыя.

Выстаўка «Зроблена ў Польшчы» прысвечана двум вялікім датам—100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-годдзю Перамогі над гітлераўскай Германіяй.

Гэта другая выстаўка польскіх тавараў у Мінску, наладжаная знешнегандлёвымі арганізацыямі ПНР. Але яна значна багацейшая. На яе шматлікіх стэндах і на адкрытай пляцоўцы—звыш трох тысяч экспанатаў, якія даюць магчымасць пазнаёміцца з прадукцыяй машынабудаўнічай, хімічнай, лёгкай прамысловасці і іншых галін народнай гаспадаркі.

На адкрытай пляцоўцы дэманструюцца будаўнічыя і дарожныя машыны, вялікі парк аўтамашын рознага прызначэння, разнастайная сельскагаспадарчая тэхніка. Прыцягвае ўвагу пабрацім нашага трактара «Беларусь» — польскі «Урсус». Дарэчы, даўняя дружба звязвае абодва гэтыя прадпрыемствы. Абмен вытворчым вопытам спалучаецца з абменам культурным. На заводзе «Урсус» выступалі беларускія самадзейныя артысты з народнага ансамбля «Лявоніха». З канцэртам прыязджалі ў Мінск да беларускіх трактарабудаўнікоў польскія спевакі і танцоры.

Уражваюць высокі густ, здзіўляючая прастата, эканамічнасць і сучасны стыль тавараў шырокага ўжытку. Глядзіш на экспанаты і адчуваеш, што кожная рэч рабілася з вялікай любоўю, з улікам канкрэтнага адрасата (не пакупніка наогул), хаця выраб іх даўно ідзе ў серыйнай вытворчасці. Звыш 400 фасонаў адзення і абутку дэманструецца на выстаўцы. Усё надзвычай проста. Матэрыялы на сукенкі, спадніцы, блузкі, плашчы рознага прызначэння, касцюмы, паліто ідуць не дарагія, а выглядаюць вырабы прыгожа, элегантна, строга. Фантазія і выналдлівасць польскіх мадэльераў сапраўды невычарпальныя!

Мінчане працягваюць знаёміцца з выстаўкай «Зроблена ў Польшчы». Поспех выстаўкі вялікі.

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ГАСТРОЛІ

Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета пачаліся ў Краснадары. Мінчане пакажуць оперы — «Аіду» і «Травіяту» Д. Вердзі, «Русалку» А. Даргамыжскага, «Князя Ігара» А. Барадзіна і іншыя спектаклі рускай, заходняй і савецкай класікі. Калектыў тэатра пазнаёміць гледачоў Краснадара і з творамі беларускіх кампазітараў—«Алесяй» Я. Цікоцкага, сваёй нядаўняй прэм'ерай «Андрэем Касценем» М. Аладава і балетам «Выбранніца» Я. Глебава.

### ...ПЕРШЫ ВЫПУСК

мастакоў-канструктараў адбыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Маладыя дызайнеры абаранілі рад арыгінальных дыпломных праектаў, многія з якіх ужо ўкараняюцца ў вытворчасць. Шаснаццаць выпускнікоў дзённага і вячэрняга адзяленняў будуць працаваць на прадпрыемствах рэспублікі і ў Беларускім філіяле Усесаюзнага інстытута вытворчай эстэтыкі.

Адначасова дыпломы мастакоў прыкладнога мастацтва атрымалі выпускнікі-спецыялісты па мастацкай кераміцы і шклу, інтэр'еру і абсталяванні, мастацкім афармленні вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці, мастацкім мадэліраванні вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці.

### ...ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ

агляду-конкурсу народных тэатраў прафсаюзаў рэспублікі, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў прысудзіў дыплом першай ступені і прэмію калектыву народнага тэатра Мінскага трактарнага завода за спектакль «Паэма пра сякеру» М. Пагодзіна (рэжысёр А. Бяляеў).

Дыпломы другой ступені і прэміі атрымалі народныя тэатры Магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў за спектакль «Вечна жывыя» В. Розава (рэжысёр А. Міхайлаў) і Палаца культуры тэкстыльшчыкаў Гродна за спектакль «Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава (рэжысёр А. Гільварг).

Дыпломамі трэцяй ступені ўзнагароджаны калектывы народных тэатраў Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў за спектакль «Неспакойная старасць» Л. Рахманава (рэжысёр А. Лісоўскі) і Брэсцкага Дома чыгуначнікаў за спектакль «Твой дзядзя Міша» Г. Мдзівані (рэжысёр А. Самараў).

За мастацкае афармленне спектакляў дыпломамі першай ступені ўзнагароджаны рэжысёр і мастак народнага тэатра лялек Віцебскага Палаца культуры ўпраўлення бытавых паслуг А. Патапенка і мастак народнага тэатра Магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў М. Клімаў.

За рэжысуру спектакляў, актуальны рэпертуар рэжысёр народнага агіттэатра «Усмешка» Дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна У. Бараноўскі ўзнагароджаны дыпломам першай ступені.

Восем выканаўцаў лепшых жаночых і мужчынскіх роляў у юбілейных спектаклях адзначаны дыпломамі першай ступені. Гэта—загадчык вытворчасці сталовай Беларускага політэхнічнага інстытута І. Доўгін, слесар з Віцебска М. Кожын, вучаніца 10-га класа г. Гродна Г. Горбач, інжынер-тэхнолаг Аршанскага ільнокамбіната А. Панкоўская, мастак Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў А. Нікіфараў, зборшчыца Мінскага матавелазавода Т. Брацішка, настаўніца Магілёўскай школы-інтэрната Р. Шутава і студэнтка індустрыяльнага тэхнікума А. Карнышава.

55 удзельнікаў юбілейных спектакляў адзначаны дыпломамі другой і трэцяй ступені. 23 энтузіястам самадзейнай сцэны прысвоена званне артыстаў народнага тэатра.

### ...СЕМІНАР

кнігагандлёвых работнікаў сістэмы Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку адбыўся ў Мінску. Даклад аб выніках выканання сацыялістычных абавязацельстваў, узятых у гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, і задачах калектыву кнігагандлёвых работнікаў па датэрміновым выкананні плана бягучага года зрабіў намеснік начальніка ўпраўлення кніжнага гандлю Я. Леўшуноў.

## СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# САБЕ ПАЛЁГКІ НЕ ДАВАЙ

**Цяпер гэты выпадак расказваюць у асяроддзі тэатралаў то як прытчу, то як анекдот. Аднаго мастака запрасілі ў выдатны тэатр афарміць спектакль. Ён зрабіў макет і паказаў вялікаму рэжысёру. Той як пабачыў на плоце адзін дзіравы валёнак, адразу ж павіншаваў мастака з удачай. У наступны раз макет зацвярджаўся, і рэжысёр убачыў на плоце два валёнкі. «Эге, братачка, гэта ж не тое,—сказаў ён,—адзін валёнак быў вобразнай мастацкай дэталлю, а два... Пара абутку—дый годзе».**

**Як часта яшчэ сустракаем мы ў творах літаратуры і мастацтва такія «два валёнкі»! Здаецца, аўтар знайшоў нешта важкае, дакладнае, адзіна патрэбнае і... бярэ дапісвае яшчэ дэталь, яшчэ страфу, яшчэ пасаж. Скажам, у адным тэатры акцёр іграў заклапочанага службовымі справамі адміністратара, і ў таго ў самы драматычны момант з партфелю вылазіла... авоська. Дэталь добрая — чалавек, аказваецца, не толькі заняты справамі, а яшчэ і сем'янін, у яго ёсць нейкія свае клопаты. Зала добразычліва засмяялася. Тады ў наступнай дзеі акцёр зноў «паказаў» тую ж авоську. Зноў быў смех, праўда, далёка не ўсёй залы. Бо з мастацкай дэталі, якая дадае нешта істотнае да характарыстыкі персанажа, авоська ператварылася ў бытавую падрабязнасць, не больш.**

**Або яшчэ прыклад. Мастак даў на выстаўку вялізнае жывапіснае палатно (больш за «Не чакалі» І. Рэпіна або «Абарону Петраграда». А. Дэйнекі), дзе паказвалася заводская сталовая. І на першым плане сакавіта намаляваў шклянкі з кісялямі—чырвонымі, жоўтымі, ліловымі. Яны праменіліся, ззялі, прасіліся на лыжку, тыя кісялі. А твары людзей, рабочых хлопцаў і дзяўчат, уласна кажучы, дзеля якіх і пісалася палатно, ужо і не прыцягвалі да сябе ўвагі.**

**У архітэктуры такое называюць «лішкамі», пераборам. Шматслоўныя апісанні, інфармацыйныя дыялогі, не абавязковыя пейзажы ў літаратурным творы—гэта таксама «лішкі». Расцягнутая на поўнаметражны фільм кінакарціна, тэма і сюжэт якой маглі б стаць лапідарнай і яркай навелай, траціць ад іх жа, ад «лішкаў». Жаданне замест аднаго валёнка даць пару абутку—гэта не толькі эстэтычны пралік, гэта, калі хочаце, і парушэнне мастацкай этыкі. Бо аўтар ці аўтары ў такіх выпадках парушаюць кантакт паміж творам і гледачом, разбураюць нашу ўвагу і прымушаюць нас перадольваць сум, расквечаную шэрасць, аздоблены прасняк.**

**Што і казаць, час цяпер такі, што вымагае ад мастацтва больш эканомных сродкаў выразнасці. Занятыя справай людзі проста не маюць вольных гадзін, каб аддаваць, напрыклад, малацікаваму і вадзяністаму раману тыдзень або месяц. А ў тэатры зараз звыш трох гадзін, бадай, ніхто і не высядзіць. Канечне, было б смешна, калі б патрабаванне ёмістай формы зводзілася да «ўмоў атамнага веку». Не, талент—гэта наогул уменне ў малым раскрываць вялікае, ашчаднымі сродкамі сказаць пра многае. Лепшыя творы пра грамадзянскую вайну—«Разгром» А. Фадзеева і «Дрыгва» Я. Коласа—складаюць усяго толькі якіх дзесяць аркушаў кожны. Колькасць радкоў у «Медным конніку» А. Пушкіна здзіўляе кожнага чытача, які чэрпае з паэмы невычэрпнае багацце думкі і эмацыянальнага хвалявання,—іх якіх чатыры сотні. І такіх—класічных—прыкладаў літаратура ведае многа.**

**Калі мастак—акцёр, жывапісец, кампазітар, рэжысёр, паэт—не клапоціцца пра мускулатуру слоўнай тканіны або музычнай мовы, пра інтэнсіўнасць фарбаў і дэталяў, пластычную выразнасць мізансцэн, ён дае сабе палёгку. Зразумела, ёмістая форма—не панацэя ад усіх недахопаў і заган, але... Аднойчы на пісьменніцкім сходзе была пададзена прапанова, каб заахвочваліся аўтары «партатыўных» твораў, і Максім Танк дасціпна пажартаваў у тым сэнсе, што такія аўтары не маюць аднаго права—быць партачамі ў літаратуры. Пішы лапідарна, але не дазваляй сабе пісаць бяздарна! Варта прыгадаць і думку Ф. Шаляпіна аб тым, што мастак павінен прыслухоўвацца да «ўнутранага званочка» ў душы, які, нібы ў ціры, падае сігнал аб «пападанні» і пасля такога сігналу ясна: зробленае табой—інтанацыя, рух, адценне—дасягнула мэты і ўспрынялося публікай. Сказаць сабе «хопіць», спыніць сябе ўмее той, хто ведае цану вобразнай мовы і адчувае яе сілу ўздзеяння.**

**Наша літаратура і мастацтва даюць узоры творчасці, дзе форма і стыль адпавядаюць тэме і ідэйнаму напаўненню задумы. Іх трэба падтрымліваць. На іх прыкладзе вучыць моладзь. Гігантаманія ў творчасці ніколі не можа ўзяць верх над гармоніяй і ўдумлівай распрацоўкай жыццёвага матэрыялу ў паэзіі, у жывапісе, у прозе, у кіно і на сцэне. Мастак — той, хто не ведае спакою. Перачытайце, скажам, першыя выданні кніг Янкі Скрыгана і яго выбранае «Кругі»: колькі аўтарскіх праваак, скарачэнняў, удакладненняў! А творы яго маюць добрую рэпутацыю і, здавалася б, пісьменнік мог бы і не вяртацца да іх. А колькі творчых намаганняў прыклаў Міхась Лынькоў, каб удасканаліць манументальную эпапею «Векапомныя дні»!.. Зноў жа такія прыклады можна памножыць. І яны вартыя пераймання.**

# АРЛЯНЯТЫ ВУЧАЦЦА ЛЯТАЦЬ

**РЭСПУБЛІКАНСКІ АГЛЯД ДЗІЦЯЧАЙ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ ПРАФСАЮЗАЎ БССР ФІНІШАВАЎ**

ШТО можа больш крануць і расчуліць, чым сонечная ўсмешка дзіцяці! А іх было, гэтых усмешак, сотні і сотні, колькі і чыстых усхваляваных і шчаслівых твараў на гэтым незвычайным свяце юных талентаў.

Тры гадзіны ішоў заключны канцэрт агляду дзіцячай мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў рэспублікі. Тры гадзіны амаль няспынна гучалі песні і вершы, выступалі танцоры і музыканты, юныя цыркачы і фокуснікі. І гледачы ўзнагароджвалі іх моцнымі воплескамі, і маленькія хлапчукі і дзеўчаняткі ўзбягалі на сцэну, адорваючы выканаўцаў кветкамі...

Адметная асаблівасць гэтага канцэрта — масавасць. Калі ўжо танец дык танец, хор дык хор, аркестр дык аркестр! Выступала таксама многа вакальных і інструментальных ансамбляў — скрыпачоў, трубачоў, балалаечнікаў. Парадам разгортвалі свае сілы шматлікія гурткі і школы, студыі і класы танца рабочых клубаў і палацаў культуры. І цяжка было вылучыць лепшых, кожны калектыў меў свае адметныя рысы ў таленавітасці і майстэрстве.

Радзіме, народу, партыі, бессмяротнаму Ільічу аддавалі рапарт юныя ленінцы, неслі шчырыя парыванні сваіх шчырых сэрцаў...



Удзельніцы танцавальнага калектыву Гродзенскага Палаца тэкстыльшчыкаў.



Удзельнікі балетнай студыі Мінскага Палаца культуры прафсаюзаў.



Ансамбль цымбалістаў Дома культуры будаўнічага трэста № 9 г. Віцебска.



Ансамбль скрыпачоў Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.



Ілюзіяністы Дома культуры дрэваапрацоўчага камбіната г. Віцебска.



Вакальны ансамбль «Сонейка» Дома культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. Куйбышава.

Фота Ул. КРУКА.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, НІЖАГАРОДЦЫ!

*ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ДРАМЫ імя М. ГОРКАГА У МІНСКУ*

70 ГАДОЎ назад Максім Горкі ўбачыў на сцэне Ніжагародскага тэатра гераічную камедыю Э. Растана «Сірано дэ-Бержэрак» і напісаў ўзрушаны маналог пра гэты твор. А ў пісьме да А. Чэхава спытаў: «А, што, бачылі вы «Сірано дэ-Бержэрак» на сцэне? Я нядаўна глядзеў і адчуў захапленне... Мне страшэнна падабаецца гэтае «сонца ў крыві» (словы з камедыі гучаць так—«Мы ўсе пад паўдзённым сонцам і з сонцам у крыві нарадзіліся!»). Канечне, гэты водгук адрасаваны перш-наперш тэксту, але характво думкі было ўспрынята зацікаўленым і патрабавальным гледачом тэатра.

Ніжагародскага тэатра.

А яму амаль дзве сотні гадоў. І ён славіцца на ўсю Расію як выдатны мастацкі ансамбль. Гэта тая сталая і высакародная руская правінцыя, якая ўзбагагачала сцэнічную культуру і паграмадзянску актыўна ўздзейнічала на грамадскую думку. Так, ніжагародцы заўсёды ўмелі захапіць залу подзвігам людзей, народжаных «з сонцам у крыві», самаахвярных праўдалюбцаў і мужных патрыётаў. Гісторыя захавала і імёны акцёрскіх зорак, што так ярка ззялі на ніжагародскім тэатральным небе. Дарэчы, раней сярод артыстаў справядліва лічылася, што калі ты «прайшоў» ў Ніжнім, то гэта ўжо нібы прызнанне Расіі.

Прыгадваючы старонкі мінулага, ніхто не скажа, быццам тэатр у дакастрычніцкім Ніжнім Ноўгарадзе не ставіў п'ес пасрэдных і не даваў «слова» акцёрам-кар'ерыстам. Аднак пафас творчага жыцця на працягу ўсёй дзейнасці гэтай трупы быў варты захаплення, што і перадаў у сваім водгуку Максім Горкі.

Цяжка сказаць, якім чынам захоўваюцца і перадаюцца лепшыя традыцыі на сцэне, але тут, у ніжагародцаў, яны захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне вельмі арганічна. Савецкі перыяд жыцця тэатра ў горадзе над Волгай фарміраваўся і гартаваўся пад пільным наглядам легендарнага ў рускай правінцыі Мікалая Сабальшчыкова-Самарына. Ён сабраў яркія акцёрскія індывідуальнасці і будаваў рэпертуар так, што лепшыя спектаклі ў Горкім прыцягвалі ўвагу заўзятых тэатралаў Масквы і Кіева, Ленінграда і Казані: да Самарына спецыяльна ездзілі, каб далучыцца да характва рэжысёрскай палітры і сапраўднага артыстычнага мастацтва. Асабліва старанна і патрабавальна да сябе працавала і працуе трупа над творамі М. Горкага. І не выпадкова «Тэатральная энцыклапедыя» падкрэслівае, што «рад горкаўскіх спектакляў тэатра лічыцца ўзорным па вернасці інтэрпрэтацыі, дакладнасці раскрыцця думкі вялікага пісьменніка-гуманіста».

Шэсць гадоў назад горкаўцы ўпершыню наведалі Беларусь. Наша грамадскасць змагла тады ацаніць ваяўнічае і глыбокае па ідэйным кірунку, яркае і маляўнічае па акцёрскім майстэрстве мастацтва тэатра. Да гэтага часу мінчане ўспамінаюць такія розныя і аднолькава бліскучыя па мастацкім ўзроўні спектаклі, як, напрыклад, «Рычард III», «Дачнікі» або «Арфей сыходзіць у пекла».

Летам 1964 года госці беларускай сталіцы «праходзілі» з аншлагамі, заваёўваючы гледача захапляючым і заўсёды чароўным мастацтвам праўдзівага слова аб чалавеку, аб яго імкненні зразумець самога сябе і супярэчлівы свет. Разнастайны рэпертуар горкаўцаў паслядоўна і строга вытрымліваў (і гэта таксама яго традыцыя!) прынцыпы актуальнага зместу, дзейснага ўздзеяння на гледача, натуральнай цікавасці ў сюжэце і вобразах кожнай п'есы.

Тады мінчане пераканаліся ў высокай культуры рэжысуры, мастакоў і артыстычнай трупы гасцей. Яны аднолькава адказна ставяцца і да таго, **што** яны іграюць, і да таго, **як** гэта робяць. Калектыў прадэманстраваў чуласць да жанравых асаблівасцей п'ес. І там, дзе драматургія падказвала дасціпны гумар і сатырычныя фарбы, і ў трагедыйнай праўдзе, і ў псіхалагічных «раманах на сцэне» акцёры свабодна і шчыра пагліблялiся ў стыхію сцэнічнага відовішча. Прыхільнікі і цяпер чакаюць сустрэчы з акцёрамі, якіх паспелі палюбіць — з А. Самарынай і У. Віхровым, з Р. Вашурынай і А. Гаранскай, з Э. Суславай і В. Дваржэцкім... І ёсць яшчэ адно імя, якое прыцягвае ўвагу мінчан, — заслужаная артыстка БССР Л. Драздова. Здабыўшы выдатны поспех на купалаўскай сцэне, незабыўная Паўлінка, яна на працягу многіх гадоў выступае ў трупе тэатра ў Горкім. Тут яе талент пасталеў, майстэрства стала больш сталым і мужным. Відаць, гэта і радуе прыхільнікаў актрысы, і трохі засмучае — магла б яна працаваць і ў Мінску. Але мастацтва перадольвае самыя цвярозыя меркаванні, і ў тых спектаклях, дзе іграе Л. Драздова, зала бывае захоплена шчырай споведдзю жаночага сэрца і ўдумлівым мастацтвам цікавага мастака. Так было шэсць гадоў назад, так будзе, мабыць, і сёлета...



Тут, у Мінску, Лілія Драздова (трэцяя злева) пачынала свой акцёрскі шлях. Сёлета яна прыехала на гастролі з Горкаўскім акадэмічным тэатрам. Прыемна пазнаёміць сяброў з родным горадам. Злева направа — артыстка Л. Іўчанка, заслужаны артыст РСФСР У. Віхроў, заслужаная артыстка БССР Л. Драздова, заслужаная артыстка РСФСР Э. Суслава, заслужаная артыстка РСФСР Р. Вашурына, артыст А. Ламзінаў.

Фота Ул. КРУКА.

Госці прывезлі да нас ладны спіс афішных назваў — класіку і сучасныя творы савецкіх драматургаў, інсцэніроўкі прозы і п'есы замежных аўтараў. Першыя спектаклі паказалі, што мінчане вераць у творчую сталасць славутага калектыву — білеты набываюцца вельмі ахвотна, а на адкрыцці гастроляў ля прыгожай лесвіцы Беларускага опернага, дзе «Гарачым летам у Берліне» пачаліся выступленні горкаўцаў, было многа тых, хто чакае «лішняга білеціка». Зразумела, перш-наперш цікавасць мінчан выклікалі арыгінальныя назвы твораў, тых, якія яшчэ ніколі не ставіліся на нашых сцэнах, — «Стаўпы грамадства» Г. Ібсена, «Пасажырка» па рамане З. Посмыш, інсцэніроўка рамана «На гарах» П. Мельнікава-Пячорскага, «Многа шуму з нічога» У. Шэкспіра. Тут удвая прывабнае абяцанне — сустрэча з невядомым драматычным матэрыялам і з яго трактоўкай таленавітымі выканаўцамі, знаёмымі па колішнім поспеху ў тым жа «Рычардзе III» або ў «Дачніках». Не ўстрымаюцца ад наведвання тэатра і тыя, хто ведае, скажам, «На дне» М. Горкага ці «На ўсякага мудраца хапае прастаты» А. Астроўскага — руская класіка заўжды была і застаецца «надзейным канём» у творчасці гаркаўчан: яны смела ўзбагачаюць навізной традыцыйныя трактоўкі, шукаюць арыгінальныя акцэнты ў даўно выпрацаваных сцэнічных малюнках вобразаў з усталяванымі рэпутацыямі. А гэта часам дае асалоду «нібы першага» знаёмства нават і з драмай «На дне». Ну, а «Надзвычайны пасол» або «Маё сэрца з табой» — п'есы, якія пакуль што рэдка паказваліся мінчанам у сцэнічным выкананні, натуральна збяруць аўдыторыю аматараў сучаснасці ў тэатры...

Заслона ўзнята. Першыя гарачыя апладысменты ўжо адазваліся рэхам у вялікім будынку на плошчы імя Парыжскай камуны. Першыя кветкі ўдзячных гледачоў падораны акцёрам і рэжысуры. Не, горкаўцы не расчаравалі мінчан. А наперадзе — новыя сустрэчы, якія замацуюць пачуццё ўзаемнай дружбы, пачуццё, якое стала атмасферай прэм'ер Акадэмічнага тэатра драмы імя М. Горкага на мінскай сцэне ў ліпені 70-га.

Ёсць рэчы, непадуладныя часу. Жыццё ідзе, дні бягуць за днямі са сваімі радасцямі і трывогамі, а ўсё роўна недзе краем сваёй памяці, кавалачкам свайго сэрца мы заўсёды звернуты туды, у мінулую вайну...

І таму, відаць, з такім хваляваннем, і чым далей, тым з большым, мы ўспрымаем кожны напамінак аб вялікім подзвігу народным. Старая газета са зводкай Савецкага Інфармбюро, пажаўцелая салдацкая фотакартка—як шмат гаворыць яна сёння нашаму сэрцу! Гэта не проста газета, не проста фотакартка— цяпер гэта дакумент гісторыі.

З некалькімі такімі дакументамі мы хочам пазнаёміць вас, дарагі таварыш, сёння. Тры карэспандэнцыі з франтавых газет. Час іх з'яўлення — пачатак ліпеня 1944 года. Месца — Беларусь.

Учытайцеся ў гэтыя радкі і перад вамі нанава паўстануць векапомныя дні вызвалення нашай роднай зямлі, нашай любімай Беларусі ад фашысцкіх нелюдзяў.

**Газета «Фронтовая правда», 6 ліпеня 1944 года:**

# НАДПІСЫ, ЯКІЯ КЛІЧУЦЬ ДА ПОМСТЫ



Дрўгія калідоры, змрочныя камеры з запыленымі кратамі на вокнах ля самай столі. Брудная цэментавая падлога. Глухія падзямеллі, куды не даносяцца гукі жыцця. Смярдзючае, задушлівае паветра. Усё тут нагадвае смерць.

Гэта фашысцкі засценак у Магілёве, дзе нямецкія звяры мучылі і забівалі савецкіх людзей. Адны тут сядзелі за тое, што не хацелі знацца з прадстаўнікамі «вышэйшай расы». Другія — таму, што іх дзяды былі яўрэямі. Трэція — за дапамогу партызанам...

Вязні — рускія і беларусы, яўрэі і ўкраінцы — замучаны, расстраляны або вывезены ў рабства ў Германію. Толькі сцены, спісаныя дрыжачымі, аслабелымі рукамі, гавораць аб неверагодных пакутах людзей.

Кожны надпіс расказвае аб велізарнай чалавечай трагедыі. Кожны надпіс — перадсмяротны крык чалавека.

Вось камера № 92, у якой былі зроблены гэтыя здымкі. На адным з іх — надпіс на сцяне, зроблены галоўным урачом магілёўскай палікЛінікі П. Т. Ціхановічам. Ён быў кінуты ў гэту камеру разам з жонкай. Ён ведаў, куды і навошта вядуць яго каты, і захапіў з сабой атруту. У апошнія перадсмяротныя хвіліны ўрач напісаў на сцяне: «... Відаць, паспею

**Газета «Красная Армия», 1 ліпеня 1944 года:**

# АСІПОВІЧЫ

Калі паглядзець на карту, гэта здасца дзіўным — Асіповічы ж знаходзяцца паміж Бабруйскам і Мінскам, але калі ўспомніць гісторыю нашага фронту, знойдуцца прыклады такога ж абходнага манеўру. Рэчыца таксама была вызвалена раней за Гомель. Гэта стыль умелых і храбрых войскаў.

Мы падыходзім да Асіповіч з поўдня. Два разы нашу дарогу перасякаюць брукаваныя шасэ, якія вядуць да граніц Радзімы.

— Балоты прайшлі, цяпер яшчэ хутчэй пойдзем,—гавораць байцы.

Асіповічы. Разбураныя дамы прыгожага ваеннага гарадка паднімаюць да неба рэштк і разбураных сцен. З машыны, якая спынілася каля дома, выходзіць палкоўнік і сумным позіркам глядзіць на руіны. Тут ён калісьці канчаў школу лейтэнантаў. Асіповічы былі адным са старых і слаўных гарнізонаў Беларускай ваеннай акругі. Тут выраслі і выхаваліся дзесяткі і сотні афіцэраў, што сталі цяпер героямі Айчыннай вайны.

Тры гады жылі Асіповічы жахлівым чорным жыццём, якое наш народ ахрысціў кароткай і зразумелай назвай: «пад немцам».

З вясёлага гарадка Асіповічыператварыліся ў горад канцэнтрацыйных лагераў і турмаў. Многа, вельмі многа дамоў, амаль усе кварталы горада, абнесены калючым дротам. Лагер для моладзі — 18 і 19-гадовых. Расстрэлы, пабоі, голад. Лагер для ваеннапалонных. Голад, пабоі, расстрэлы. Лагер для выгнаных старых, жанчын і дзяцей са Смаленскай і іншых абласцей. Лагер для дзяцей ад 8 да 15 гадоў. Ва ўсіх лагерах рознае прызначэнне, але рэжым адзін—пабоі, голад, расстрэлы.

У гэтым маленькім гарадку ўсе вялікія дамы былі адведзены пад турмы. Буйны чыгуначны вузел прапускаў па некалькі эшалонаў у дзень. Прыбіральшчыца з вакзала—Феня Лаўрова расказвае: «Праз Асіповічы прайшло некалькі эшалонаў з дзецьмі. Дзіцячы плач нёсся з вагонаў, перакрываючы гудкі паравозаў».

Разам з групай байцоў мы ідзём на вакзал, глядзім на вынікі налётаў савецкай авіяцыі. Вось адзін з бліндажоў — прамое пападанне бомбы—12 трупаў нямецкіх афіцэраў. Добра. Але нашы позіркі міжволі накіраваны ўдалечыню, да Мінска, куды пагналі эшалоны з плачучымі дзяцьмі. Трэба дагнаць іх, трэба спяшацца. Таму адпачынак байцоў вельмі кароткі. Першым уварваўся ў горад сяржант Фёдар Дзідэнка. Разам з байцамі батальёна капітана Цыбізава артылерысты ўзялі ў горадзе ўначы добрую сотню палонных. Гэта былі галаварэзы з нямецкай каманды, якая падпальвала горад.

Імклівы штурм выратаваў горад ад пажара. Больш таго, немцы, уцякаючы, кінулі на станцыі пяць эшалонаў з харчаваннем і маёмасцю. Паравозы стаялі пад парамі, але адысці не паспелі.

У Асіповічах знаходзіліся прадуктовыя склады. Немцам не далі вывезці ні фунта мукі, ні бляшанкі кансерваў. Тысячы пар абмундзіравання ляжыць на складах. Вось скрынкі з ботамі і афіцэрскімі нашыўкамі, іх многа. Вось тоны цукру,

**Газета «Красноармейская правда», 4ліпеня 1944 года:**

# У МІНСКУ

Першыя нямецкія бомбы ўпалі на Мінск 22 чэрвеня 1941 года, на досвітку таго памятнага для нас дня, калі мы, прачнуўшыся, даведаліся аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу савецкую Радзіму.

Мінскам ганарыўся ўвесь Савецкі Саюз. За гады Савецкай улады ў горадзе выраслі шматпавярховыя будынкі. Дзесяткі заводаў і фабрык, Акадэмія навук, тэатры — оперны і драматычны, адзінаццаць вышэйшых навучальных устаноў. Расцвіталі прамысловасць, мастацтва, літаратура.

За тры гады свайго панавання немцы ператварылі Мінск у руіны. Жахлівымі праваламі вокнаў глядзяць на нас пустыя каменныя каробкі дамоў. Вуліца Леніна нагадвае разбураны Крашчацік у Кіеве. Узарвана многа заводаў — станкабудаўнічы імя Кірава, фабрыка «Кастрычнік»...

Разбураны будынкі вну, клінічнага гарадка, часткова разбураны оперны тэатр. У самы дзень вызвалення ўзарваўся Дом Чырвонай Арміі, замініраваны немцамі.

Немцы ўцякалі паспешліва, і многія дамы ўдалося адстаяць ад агню, выратаваць ад узрываў. Уцалеў выдатны Дом друку з машынамі і нават з запасамі паперы. Немцы не паспелі ўзарваць і спаліць велізарныя карпусы Дома ўрада, на хлебазаводзе нашы байцы знайшлі нават свежаспечаны хлеб, на радыёзаводзе захавалася апаратура. Уцалеў мясакамбінат.

Разам з Чырвонай Арміяй у Мінск увайшлі партызаны. Яны ходзяць па вуліцах, гавораць па-гаспадарску аб гарадскіх справах, аб аднаўленні разбураных прадпрыемстваў. З усіх бакоў у горад сцякаюцца жыхары. Кінамеханік Эдуард Варaконскі расказвае, як яго мучылі і білі ў фашысцкім засценку. На Савецкай вуліцы было гестапа, на Астроўскага — страшны фашысцкі засценак, з якога часта даносіліся стогны катаваных. Па ўсім горадзе на слупах вешалі мірных людзей...

Цяпер з усім гэтым пакончана...

Дзве жанчыны з рэчамі ідуць па вуліцы. Гэта маці і дачка. Іх прозвішча — Марыніч. Усе гэтыя дні, чакаючы Чырвоную Армію, яны хаваліся па падвалах на ўскраіне горада. Зараз вяртаюцца дамоў. На стомленых тварах іх радасныя ўсмешкі.

— Паедзеце, дзядзя, у Берлін, вазьміце мяне з сабой, — просіць 10-гадовы хлопчык Валодзя, які падбег да нас з бутэлькай квасу. Ён дае напіцца афіцэрам і байцам. Яны смяюцца:

— А ў цябе там што за справы?

*Надрукавана ў «Маладосці»*

# МЫ НЕ ТАКІЯ, КАБ ЖУРЫЦЦА!

Кніжка Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага» ўсім прыйшлася па душы — і дзецям, каму яна прызначана ў першую чаргу, і дарослым. Шустрыя хлапчукі, дзелячыся ўражаннямі ад яе, выстаўляюць вялікі палец: «Во! Сіла...» Дарослыя, асабліва каму давялося ў той ці іншай ступені перажыць лёс герояў Сяркова, прачытаўшы кніжку, надоўга задумваюцца. Хто з нас, малых паджыганцаў у той страшны час, не марыў пайсці ў партызаны. Каму з нас не вядома не па-дзіцячы асэнсаваная думка: «Толькі б дачакацца нашых, а там хай сабе і смерць...»

Ваня Сырцоў і Санька Макавей дачакаліся нашых. На гэтым кніжка заканчваецца. Перагарнуўшы апошнюю старонку, адчуваеш жаль: шкада расставацца са сваім дзяцінствам, якое нібы ажыло перад вачамі, хоць яно было поўнае нягод і пакут. Шкада расставацца з героямі кніжкі, якіх аўтар здолеў паказаць жыва, ярка, пераканаўча, у нейкім своеасаблівым аптымістычным ключы.

Чытачы «Маладосці» з задавальненнем прачыталі ў 4 і 5 кніжках часопіса новую аповесць Івана Сяркова «Мы — хлопцы жывучыя», у якой расказваецца, «што было далей», як жылі і дзейнічалі тыя ж Ваня Сырцоў, ад імя якога вядзецца расказ, яго сябар Санька Макавей, дзядзька Скок і іншыя ў першыя пасляваенныя гады, як аднаўлялася жыццё ў зруйнаванай фашыстамі вёсцы.

У новай кніжцы І. Сяркова, як і ў папярэдняй, сюжэт вельмі просты: неўладкаванае, далёка не сытнае, зрушанае з месца вайною жыццё, але поўнае адчуваннем, усведамленнем здабытай свабоды. Звычайныя хлапечыя забавы, блазенства і захапленні перамяжоўваюцца справамі вельмі сур'ёзнымі, што прынесла з сабою вайна.

У героях І. Сяркова прываблівае перш за ўсё аптымізм і актыўнасць натур. Хлопцы перанеслі вайну, расстанне з бацькамі, галадалі-халадалі, перажылі здзекі фашыстаў, дык хіба цяпер, калі прыйшлі нашы, ім сумаваць і журыцца! Худыя, змарнелыя постаці падлеткаў перапоўнены энергіяй. Вось іх нясе немаведама куды, каб паглядзець на збіты нямецкі самалёт. Вось яны выходжваюць жарэбчыка, матка якога загінула пад абстрэлам, прывучаюць яго да баявога імя «Буян». Памагаюць дзяўчатам-зенітчыцам капаць акопы, а потым

выпіць». Лепш смерць ад сваёй рукі, — вырашыў ён, чым катаванні і мучэнні гітлераўцаў.

Пятнаццацігадовага Васю Шастакова немцы схапілі за дапамогу партызанам. Тут ён чакаў смерці.

Адлічваючы дні свайго жыцця, хлопчык завёў каляндар. Кожны дзень ён адзначаў на сцяне. І вось 25 чэрвеня, калі нашы войскі падыходзілі да Магілёва, гітлераўцы расстралялі беларускага хлапчука. На гэтым дні абрываецца яго каляндар.

Разам з Васем сядзеў 14-гадовы Веня Свенціхоўскі. Немцы бацьку яго забілі, маці вывезлі невядома куды, а яго пасадзілі ў турму.

Васю расстралялі. Веня бясследна знік з камеры. Яго выклікалі на допыт, і больш ён не вярнуўся.

Надпісаў вельмі многа: «У гэтай камеры сядзела Галіна Міцкевіч, яе дачка Дзіна, нараджэння 1941 года, і дачка Эльвіра, нараджэння 27 студзеня 1943 года, з гор. Чаусы». «Тут сядзеў Ханін Арон, нараджэння 1926 года. Расстралялі 28.2.42 года»...

Таварыш баец! Угледзься ў гэтыя надпісы. Яны клічуць да бязлітаснай помсты.

Помсці за смерць урача Ціхановіча і яго жонкі! Помсці за смерць Васі Шастакова і Вені Свенціхоўскага! Помсці за многія тысячы ахвяр фашысцкага засценка.

мукі, кансерваў—багатыя трафеі. Вось што значыць манеўр, вось што значыць імклівы ўдар!

Немцы, якія былі ў кіламетры ад горада і пастрэльвалі з танкаў, зноў пабеглі. Зараз яны ўцякаюць, падпальваючы сёлы.

З воданапорнай вежы Асіповіч далёка відаць дымы, якія ўздымаюцца к небу.

Жыхароў у Асіповічах зараз мала. Каб не трапіць у Германію, яны разбегліся па лясах і зараз вяртаюцца па ўсіх дарогах у свой горад. Сустракаючы байцоў, яны моцна паціскаюць ім рукі, расказваюць, дзе ў лясах яны бачылі разрозненыя групы немцаў.

Горад Асіповічы ўзяты толькі раніцай, а тут ужо не чуваць гарматнай стральбы.

Фёдар Дзідэнка выязджае за горад, даганяючы стралкоў, якія далёка пайшлі наперад. Да пабачэння, Асіповічы, мы ідзём наперад, вяртаючы жыццё Беларусі.

**Яўг. ДАЛМАТОЎСКІ.**

— Знойдуцца, — сур'ёзна адказвае хлопчык. — Вось хоць бы вам дапамагаць: піць даць ці што... А потым,—дадае ён нечакана, — хачу аднаго там немца знайсці... Ён у нас жыў на кватэры, а потым дом наш узарваць хацеў. Злаўлю рыжага... Ох, і будзе ж яму...

Дарослыя не смяюцца. Нейчая цяжкая рука лягла на галаву дзіцяці.

— Возьмем, чаму ж не, — супакойвае яго баец.

Міма праходзяць людзі з рыдлёўкамі. Мінчане бяруцца за аднаўленне свайго горада. Ачышчаюць вуліцы ад абломкаў, рамантуюць дарогі. У горад прыбылі ўжо партыйныя і савецкія арганізацыі. Наладжваецца нармальнае жыццё.

**Ал. ІСБАХ.**

Публікацыя С. Ашаровіча.

Пятро ГЛЕБКА

# ЛЯСНОЕ ВОДГУЛЛЕ

**Уступ да паэмы**

*6-га ліпеня спаўняецца 65 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Пятра Глебкі. Прапануем увазе чытачоў уступ да паэмы «Лясное водгулле», над якой паэт працаваў у апошнія гады свайго жыцця.*



П. Глебка.
Здымак ваенных гадоў.

Кружыць за вокнамі белая замяць,
Блізка грыміць, не сціхаючы, бой.
Ты, маё сэрца, і ты, мая памяць,
Што вы зрабілі са мной?!

Вы перайшоўшага мёртвы гасцінец
І прамінуўшага смерці палі
Дзесьці, у нейкай з маскоўскіх гасцініц,
Зноўку на спрэчку з сябрамі звялі.

Хопіць! Абрыдала! Нас не пасварыць!
Роўна падзелім лаўровы вянец,
Так, як з таварышам верны таварыш
Дзеліць сягоння і хлеб і свінец.

Трэба аб сталасці дбаць памаленьку —
Скроні пакрыты сняжком сівізны,
Нашымі крыўдамі Панамарэнку,
Мы надаелі яшчэ да вайны.

Дбайна шануючы быт беларускі,
Звычаі родных пакінутых сёл —
Хоць не багата пітва і закускі,
Сядзем, давайце, па-брацку за стол.

Слушна сцвярджае таварыш Маўчанскі:
Простыя хлопцы, як наша братва —
Слуцкі касец ці рыбак нарачанскі
Могуць тварыць без пайка і пітва.

Нашаму брату для чулага сэрца
Вострае слова ці жарт Крапівы
Лепей, як руская горкая з перцам:
Хопіш чуток — і не шум баравы.

Стол жа сягоння убран адмыслова:
Тут пахаджае, шуміць і звініць
Хмельнаю брагаю верш Куляшова
З водарам кміну і спелых брусніц.

Лірыка Танка і лірыка Броўкі
Пеняцца ў кубках да самага дна.
Гэта хмяльней даваеннай зуброўкі
І гарачэй ад старога віна.

Мы гэтым словам, як брагай, сагрэты,—
Што нам халодная, злая зіма!
Шумна балююць сягоння паэты.
Шкода, што Панчанкі з намі няма.

Сумна, што дзядзька Якуб за Уралам
Тужыць штовечар адзін пад акном.
Горка і цяжка, што Янка Купала
Болей не сядзе за нашым сталом.

Вып'ем жа чаркі пакуты і гора
Мужна, як нашыя продкі пілі.
Верую кожнай крывінкай, што скора
Вып'ем за радасць на роднай зямлі.

З гэтага толькі і сэрца хмялее,
Зорнымі іскрамі сыплецца смех...
А над прасторамі кружыць завея,
Белымі хмарамі гоначы снег.

Холадна ў полі і жудасна ў лесе...
Чаркаю лірыкі грэючы кроў,
Танк выпівае за Рыбку Алеся,
П'е за Сялібу Аркадзь Куляшоў.

Слава і поспехі дзеляцца проста,
Крыўда сягоння душы не кране:
Кожнаму дадзена слова для тоста...
Вось падыходзіць чарга й да мяне.

Каюся, грэшны,— ніводнай паэмы,
За выключэннем якогась пісьма!
І не таму, што хвалюючай тэмы
Ці адпаведнай задумы няма.

Мы, раз'яднаныя, край наш, з табою,
Засумаваўшы па роднай зямлі,
Слухалі з Панчанкам рокаты бою,
Нам яны нашаю песняй былі...

Толькі, таварышы, трэба вам ведаць —
Тосты і мы гаварылі не раз,
І перад вамі за гэтай бяседай
Тварам, як кажуць, не ўдарым у гразь.

Дайце мне толькі хвілінку спакою,
Вызвальце роднае слова з ярма,
І раскажу я вам зараз такое,
Што ні ў паэмах, ні ў песнях няма.

*КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА*

# ПРА БАЯВУЮ САДРУЖНАСЦЬ

У 1942 годзе ў Савецкім Саюзе быў створаны з французскіх лётчыкаў-патрыётаў авіяцыйны знішчальны полк «Нармандыя». Французскія лётчыкі змагаліся з фашыстамі на савецкіх самалётах, савецкія авіямеханікі і збройнікі рыхтавалі самалёты да баявых палётаў.

У 1944 годзе французскі авіяцыйны полк удзельнічаў у вызваленні Беларусі, вёў актыўныя баявыя дзеянні на Нёмане, за што атрымаў званне «Нёманскі».

Савецкая філатэлія двойчы прысвяціла свае паштовыя знакі баявой садружнасці савецкіх і французскіх лётчыкаў. У 1962 годзе была выдадзена марка па эскізе мастака Ю. Ракоўскага, на якой паказаны знішчальнікі ў палёце. Пад імі — эмблемы Ваенна-Паветраных сіл СССР і распазнавальныя знакі палка «Нармандыя-Нёман».

25-я гадавіна палка «Нармандыя-Нёман» таксама была адзначана выпускам памятнай паштовай маркі, на якой былі надпісы на французскай і рускай мовах.

Сёлета французскае паштовае ведамства выпусціла паштовы знак у 45 сантымаў, прысвечаны баявой дружбе савецкіх і французскіх лётчыкаў у час другой сусветнай вайны. Марка выпушчана па просьбе ветэранаў палка «Нармандыя-Нёман» да 27 гадавіны стварэння часці.

На марцы паказаны савецкія самалёты з распазнавальнымі знакамі французскай авіячасці, на пярэднім плане — французскі лётчык паціскае руку савецкаму авіямеханіку, які падрыхтаваў самалёт да палёта. Вакол малюнка маркі назвы гарадоў і месц, у вызваленні якіх прымала ўдзел часць. Сярод іх— этапы баявога шляху па зямлі Беларусі — «1944. Віцебск—Беразіно—Мінск...»

У калекцыях філатэлістаў з'явілася яшчэ адна паштовая мініяцюра, якая сведчыць аб дружбе двух народаў у гады суровай барацьбы з гітлерызмам.

**Л. КОЛАСАЎ.**



Летнім днём ветэран прыйшоў сюды з сынам. Прыйшоў да манумента Перамогі, каб успомніць былое — вайну, баявых сяброў, з якімі поплеч змагаўся і якія не вярнуліся дамоў...

А вакол кіпіць жыццё. Праносяцца аўтамашыны, з блізкага парку чуваць смех і песні дзятвы. Так, жыццё ідзе. Шчаслівае жыццё, заваяванае гэтым пасівелым ветэранам і мільёнамі такіх, як ён.

Фота Ул. КІТАСА.

перацягваюць туды гарматы... Ні хвіліны без дзеяння.

А бабка Матруна... Колькі жыццедзейнасці ў гэтай старой жанчыне, на руках якой засталося двое непаседлівых жэўжыкаў! Яна і ўшчувае іх, калі трэба, і ўхітраецца неяк накарміць іх, і лечыць, і ўмее вельмі эфектыўна памірыць каля печы сваіх шматлікіх кватарантак...

Наогул, чытач увесь час у палоне клапатлівых, няўрымслівых, шчырых душой і чыстых сэрцам герояў аповесці. Не, вайна, пакуты і смерць не спустошылі душы нашых людзей — ні малых, ні дарослых. Прыгнечаныя горам людзі яшчэ больш цягнуцца да ўсяго светлага, прыгожага, яшчэ больш адчуваюць патрэбу зазірнуць у заўтрашні дзень.

Просты чалавек ніколі не казырае сваёй дабрачыннасцю, не выстаўляе яе напаказ. Пісьменнік сам павінен быць гуманістам і высакародным чалавекам, каб знайсці гэты скарб у душах людзей, і мастаком, каб вось так, ва ўсёй красе паказаць яго людзям.

Майстэрства І. Сяркова як пісьменніка, па-мойму, заслугоўвае асобнай гаворкі. У некалькіх словах гэта не вызначыш. Ды гэта, відаць, пакуль і не трэба. Скажам адно, што малады пісьменнік напісаў кнігу, якую з вялікай карысцю для сябе і з вялікай эстэтычнай асалодай прачытаюць не толькі дзеці, але і дарослыя.

**Ул. АНІСКОВІЧ.**

## Сымон БЛАТУН






*Калі Сымон Блатун чытаў мне самы першы варыянт паэмы, не мог я нават уявіць, што не даводзецца майму даўняму сябру чытаць карэктуру, убачыць паэму надрукаванай. Не стала паэта. А паэма засталася. Яна — гнеўны пратэст супраць вайны, якая апаліла сэрца падлетка Сымона, яна — усхваляваны маналог паэта-грамадзяніна.*

*Паэма выяўляе яшчэ адну грань самабытнага таленту Сымона Блатуна, раскрывае багаты духоўны свет паэта.*

Рыгор БАРАДУЛІН.

*ПАМЯЦІ
АХВЯР
ХАТЫНІ*

### I

Калі гарыць у вёсцы хата,
У рэйку б'юць — трывожны звон.
Надрыўным, ўзбуджаным
раскатам
Здавён людзей склікае ён.

На гэты гул, на гэты гром
Бяжы з вядром,
бяжы з багром!

Калі хутчэй рукаў ад помпы,
У студню ўкінуўшы другі,
Ды пампаваць прыйдзі
на помач —
І затрашчыць струмень тугі.

Ці на страсе суседняй хаты
Ты з мокрай посцілкай пільнуй
Пякельных вос, клакоў
калматых —
Не дай раскрыліцца агню!

### II

Дзядзька шыльдачкі
прыбіваў на хатах.
Малатком:
стук-стук-стук!
На вуглу адной —
іржавая лапата,
А на гэтай багор —
іржавы крук,
Бо ў хаце мужчына дужы.
А вось тут — вядро.
Удава, без мужа...
Тут патрэбна бочка.
А тут — сякера.
Прымацаваў апошнюю.
Праверыў.
Роўна дваццаць шэсць
дашчэчак.
Пастаяў,
падумаў аб нечым.
Скруціў папяросу
І смачна закурыў —
Аж выпусціў дым
носам...
Да свірна паціху
пакрочыў,—
Пастражэлі вочы:
Вады на дне
ў бочцы ўкапанай —
Пазеляняла,
пахне пагана.
Наліць трэба свежай
поўна.
Праверыў уважліва
помпу.
Пад саламянай павеццю —
Рукаў разматаны:
Ізноўку сваволілі дзеці...
Тут усё ў належным
стане:
Багры, вядро, тапор
пад страхою,
З бочкі не патыхае,
І пасвятлеў ён тварам:
Здаецца, усё
на выпадак пажару.

### III

Загарэліся, ўспыхнулі хаты,
Дзе ж трывожнага гулу раскаты?
Дык чаму ж не звініць болей
рэйка
І не коціцца поклічам рэха?
Ліжа полымя сквапна
вуглы —
Вёдры, бочкі, багры...
Дык чаму ж ніхто не бяжыць?
Дрэвы стогнуць адно —
жыць,
жыць...

### IV

Уладарна цопалі цапы,
Залатыя снапы, снапы...
Расперазаныя,
распаясаныя, —
Госці з поля яснага —
Залатыя снапы, снапы...
Залатыя цапы
Выбівалі прыглушана такт:
— Так-так-так!
Так-так-так!
Аж звінеў ад іх ток:
— Так — цапок,
так — снапок...
І сцяной стаялі кулі,
Паспрабуй — перакулі!
Як рукамі звязаныя,
Зноўку падпяразаныя,
Пакрысе, пакрысе
Іх прычэша шчотка.
На страсе
Іх прывяжуць віткамі
да латаў —
Маладзее хата,
харашэе хата.
Да самога коміна —
К саломцы саломіна,
Не зацекчы столі
Больш цяпер ніколі.
Залатыя цапы
Гаварылі:
— Цоп-цоп!
Абмалоцім пяць коп.
На салому і на палову,
На кулі — напалову.
Залатыя снапы, снапы...
Залатыя цапы
Уладарна хадзілі ў такт.
Так было.
І не будзе больш так.

### V

Клякатаў белы бусел
на хаце,
Як спажыву прыносіў
дзіцяці.
Ды ўспуджаны
птушак прылёт —
Клякатаў, клякатаў
кулямёт.
Ой навошта ж прыйшло
тое ліха?
Устрывожана з буслам
бусліха.
Гэта ж так яны шчыравалі,
Як гняздо сваё будавалі —
Насілі сучча рагатае,
Стала роднай ім хата.
Ніхто іх не трывожыў —
Кранаць буслоў
няможна,
Бо гавораць людзі —
Бусел злосны будзе,
Як гняздо хто разварушыць
Ці яйкі парушыць.



І дзяцей так сцешваюць:
— Прынясе ён галавешку
Гарачую
І на хату кіне...
Хто такое бачыў?
Не было і ў паміне.
Так й жылі,
Буслянятак цешылі.
Хто ж прынёс
на страху галавешку?
Узмахнуў крыллем жаркім
певень —
Да гнязда дабярэцца
пэўна...
Сціх пажар.
І ніхто больш не ўбачыў:
Селі птушкі
на комін гарачы.

### VI

Мы — людзі дрэва і саломы.
Быў сціплы выгляд
нашых хат —
Нікому вочы не калолі...
Запомнім памяццю ў
сто крат —
Дваццаць шэсць хат!
Сэрца ў грудзях, застынь...
Хата да хаты — Хатынь.
Параслі стрэхі зёлкім мохам.
Хаты, хаты... З абразамі,
з богам,
Людзі сеялі, людзі жалі
І дзяцей на свет
нараджалі.
На свет, на свет —
Як след, як след.
Жылі,
сварыліся,
мірыліся —
Вёска, аржаная вёска,
З борам тугім
зраднілася,
З лугам мурожным,
росным,
Хатынь...
Кроў у жылах застынь!
Вёска ўвечары
песні спявала,
Вёска ўдзень
на зямлі шчыравала —
Усяго ў дастатку хапала.
Дзеці снілі харошыя сны —
Ад сасны, ад сасны...
Прачыналіся ранкам
росным
І да вас шыбавалі,
сосны.
Вы пад сонцам, як воск,
загарэлі
І — згарэлі...
Не веру!
Згарэлі.
Не для пульхных
прасяных ляд...
Дваццаць шэсць хат...
З сонечных бернаў,
З ляснога рэха,
З моху,
што можна курыць...
Душа агнём гарыць...

### VII

Вывеў комін сусед —
З печніком прыселі,
Значыць, будзе як след
Наваселле.
Пасля працы пячнік
Пакурыць прывык —
Смачна зацягнуўся,
Каб і комін яго
дымком не папярхнуўся.
Правералі цягу —



Мал. Я. ГОЛЬБЫ.

Падпалілі дровы.
Не даў майстар маху,
Будзь здаровы!
Комін з цэглы калёнай,
Як звон, як звон.
І гудзе шалёна
У печы агонь.
...Юшкі рана зачыняць —
Комін жа ва ўладзе,
Вуглі хай перагараць,
Каб не учадзіць.
Будзе чысціць камінар
Стылы комін важна,
Каб не ўзнік пажар, —
Абмяце ён сажу.
Цягаваты комін,
Працаўнік,
Хаты чарнарабочы...
Пажар узнік!
Усё ж узнік!
Пачарнеў і комін
цямней ад ночы.

VIII

Каміны, каміны...
Дваццаці шасці хат.
Званы, званы...
Дваццаць шэсць —
Набат!
Слухайце, людзі,—
Памяць ў гэтым гудзе...
Каміны, каміны,
Званы, званы
Над магілаю
мірных салдат...
Дваццаць шэсць?
Не, тысячы спаленых хат!
І на покліч трывожны набата
Мы ідзем!
Мы судзіць ідзем катаў.
Дзе хаваешся ты,
недабіты кат?
Чуеш, гнеўна гучыць набат?!
Клічуць, клічуць званы людзей.
Мы ідзем,
мы ідзем,
мы ідзем...
Бясконца.



Раман МАЧУЛЬСКІ,
Герой Савецкага Саюза

# КАМАНДЗІР НЕЗВЫЧАЙНАГА РЭЙДУ

ПАРТЫЗАНСКАЯ барацьба ў тыле ворага не мела і не магла мець раз і назаўсёды выпрацаваных тактычных прыёмаў і правілаў. Гэтыя прыёмы і правілы дыктаваліся абставінамі. А абставіны былі такімі, што кожны дзень нават часам кожная гадзіна нараджалі новыя задачы, прыносілі новыя клопаты і турботы. Гэтая своеасаблівасць жыцця і барацьбы народных мсціўцаў была ўсвядомлена і зразумета намі не адразу. Мы паступова набывалі вопыт, выпрацоўвалі пэўную тактыку партызанскай вайны, узмацнялі ўдары па ворагу, вучачыся на ўласных, часам горкіх і балючых памылках.

Усё гэта, канечне, рэчы вядомыя. А падумалася пра гэта вось чаму...

Летам 1942 года ў абкоме партыі і штабе злучэння ўзнікла думка пасляць у раёны вобласці спецыяльную групу разведчыкаў-інструктараў. Неабходнасць у пасылцы такой групы была відавочная.

Цэнтральны камітэт партыі і Цэнтральны штаб партызанскага руху ўзмоцнена патрабавалі ад нас усямернай актывізацыі баявой дзейнасці партызанскіх атрадаў і груп, пашырэння дыверсійнай работы — асабліва на чыгунках і шасейных дарогах. Выканаць гэтае ўказанне партыі без яснага і дакладнага ведання таго, што робіцца на месцах, у раёнах вобласці, было немагчыма. Тых жа звестак, якія паступалі да нас ад падпольных райкомаў партыі і камсамола, і баявых данясенняў камандзіраў партызанскіх атрадаў было недастаткова. Трэба было мець аб'ектыўныя і зусім пэўныя звесткі аб тым, як ваююць народныя мсціўцы з нямецка-фашысцкімі акупантамі, як партызанам дапамагаюць партыйныя і камсамольскія арганізацыі, якія ёсць рэзервы для ўзмацнення баявых аперацый супраць ненавіснага ворага. Нам таксама цікава было ведаць і тое, як паводзіць сябе насельніцтва раёнаў, думкі і настроі людзей, прытым не толькі ў партызанскіх вёсках, але і ў тых населеных пунктах, дзе размешчаны гарнізоны гітлераўцаў, і ў гарадах.

Здабыць гэтыя звесткі і павінна была спецыяльная група разведчыкаў.

Пасля таго, як пытанне аб пасылцы такой групы было ў прынцыпе высветлена, мы пачалі думаць, каму даручыць выкананне гэтага адказнага задання, у першую чаргу над тым, хто павядзе групу ў цяжкі і небяспечны рэйд. Усе адзінадушна пагадзіліся на кандыдатуры Міхаіла Іосіфавіча Буглака, чалавека цікавага і складанага лёсу...

Нарадзіўся Міхаіл Іосіфавіч Буглак у 1906 годзе ў вёсцы Дзятлаўшчына Мядзельскага раёна, у сям'і селяніна-бедняка. Як толькі стаў на ногі, пачаў памагаць бацьку па гаспадарцы — араў, сеяў, касіў. Давялося пакаштаваць і парабкоўскага хлеба, гнуць спіну доўгі летні дзень на полі асадніка. Зімой, каб зарабіць якую капейчыну, ішоў на лесараспрацоўкі.

Зведаў хлопец і голад, і холад, бачыў сацыяльную несправядлівасць, прыніжэнне нацыянальнай і чалавечай годнасці. У душы выспявала вялікая крыўда і нянавісць да прыгнятальнікаў, да тых, хто чыніў здзекі і крыўды, хто праліваў людскія слёзы і кроў. І калі ў верасні 1927 года Міхаіла Буглака ўзялі ў польскую армію, ён уключыўся ў падпольную рэвалюцыйную дзейнасць. У 1929 годзе падпольная група была высачана шпікамі. Міхаіла арыштаваць не паспелі—ён дэмабілізаваўся. Аднак дома прабыць давялося не доўга—у тым жа 1929 годзе дэфензіва знайшла яго і ў вёсцы. Неўзабаве Міхаіла Буглака судзілі.

У розных турмах і лагерах панскай Польшчы Буглак правёў дзесяць доўгіх гадоў — вызваліў яго толькі памятны верасень 1939 года.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай Міхаіл Іосіфавіч Буглак быў абраны дэпутатам Вілейскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных і намеснікам старшыні гарвыканкома. На гэтай пасадзе ў Вілейцы яго і застала Вялікая Айчынная вайна.

Разам з партыйна-савецкім актывам Міхаіл Буглак эвакуіруецца на ўсход. Спыніўся ў Лёзна Віцебскай вобласці. Адсюль па ўказанні ЦК КП(б)Б з групай А. І. Далідовіча 7 ліпеня накіроўваецца ў Любанскі раён Мінскай вобласці — для арганізацыі ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў партызанскай барацьбы. Тут, на Любаншчыне, і пачалася яго баявая партызанская дзейнасць.

Ужо ў жніўні 1941 года, разам з партызанамі І. Вішнеўскім, А. Крупскім і М. Калеснікавым, Міхаіл Іосіфавіч спальвае непадалёк ад Любані мост цераз раку Арэсу, удзельнічае ў засадах і дыверсіях. Ведаючы, што ён прайшоў суровую школу падпольшчыка ва ўмовах белапанскай Польшчы, сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі І. Д. Варвашэня даручае яму важнае заданне — здабыць у Любані друкарскі шрыфт. Гэтае заданне было паспяхова выканана. Група партызан (Гуляеў, Касцюкавец і Гурыновіч) на чале з Буглаком у кастрычніку 1941 года ўначы прабраліся ў Любанскі гарнізон і забралі з былой друкарні раённай газеты шрыфт, даставіўшы яго на востраў Зыслаў, дзе неўзабаве была арганізавана славутая партызанская друкарня.

Смелым і вынаходлівым байцом паказаў сябе М. Буглак і ў ноч з 6 на 7 лістапада 1941 года—у гэтую ноч партызаны разграмілі Любанскі гарнізон гітлераўцаў, адзначыўшы тым самым 24-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Пасля ён прымаў удзел у баях пры атаках на гарнізоны праціўніка ў Ветчыне, Капаткевічах, Кузьмічах, Пасталах, Белым Пераездзе і ў многіх іншых баявых аперацыях, і заўсёды паказваў узоры смеласці і мужнасці, прыклад таго, як трэба біць ненавіснага ворага.

Падпольная работа ў буржуазнай Польшчы, дзесяць гадоў турэмнага зняволення, якія загартавалі яго волю, выпрацавалі стрыманасць, разважлівасць і цвярозую асцярожнасць, урэшце — вопыт, набыты за год партызанскага жыцця, — усё гэта і падказала нам кандыдатуру Міхаіла Іосіфавіча Буглака на пасаду кіраўніка спецгрупы.

Памятаю цёплы жнівеньскі дзень 1942 года, калі да нас, у абком партыі і штаб злучэння, прыбыў па выкліку Міхаіл Іосіфавіч. Васіль Іванавіч Казлоў, не трацячы часу, адразу загаварыў:

— Міхаіл Іосіфавіч, мы ведаем вас як змагара за свабоду ў санацыйнай Польшчы і як адважнага народнага мсціўца. У вас ёсць вопыт работы ў падполлі, ёсць баявы вопыт барацьбы ў тыле ворага. Менавіта таму абком партыі вырашыў даручыць вам выкананне аднаго адказнага і небяспечнага задання. Хутчэй нават не задання, а даручэння. Не адмаўляецеся?

— Загадвайце, таварышы камандзіры, — адказаў М. Буглак. Ён сказаў «таварышы камандзіры», бо ў пакоі, акрамя Васіля Іванавіча, было яшчэ некалькі таварышаў з абкома партыі і штаба злучэння.

Васіль Іванавіч усміхнуўся:

— Загадваць будзем пасля. А цяпер слухайце ўважліва і запаміна́йце. Вам з невялікай групай партызан давядзецца пабываць у Капыльскім, Грэскім, Уздзенскім, Дзяржынскім, Заслаўскім, Лагойскім, Плешчаніцкім, Крывіцкім, Докшыцкім, Бягомльскім, Барысаўскім, Смалявіцкім, Чэрвеньскім, Пухавіцкім і Асіповіцкім раёнах — адным словам, ва ўсіх раёнах вобласці, якія ляжаць на поўнач ад Любаншчыны. Калі вы згодны перамераць гэты немалы круг уласнымі нагамі, дык падшукайце сабе чалавек чатырох памочнікаў і —у дарогу. Згодны?

— Згодзен, таварышы камандзіры.

— А зможаце?

— Пастараемся. На сваіх дваіх, Васіль Іванавіч, пройдзем.

— Што ж, гэта добра, што вы ўпэўнены. Мы спадзяёмся, Міхаіл Іосіфавіч, што зможаце. А цяпер,— Васіль Іванавіч зноў пасур'ёзнеў, — да справы. Дарога ваша будзе доўгая і небяспечная. Падрыхтавацца да яе трэба старанна. Абдумайце, улічыце кожную дробязь. На гэта вам пяці дзён хопіць?

Праз пяць дзён Міхаіл Буглак зноў быў у абкоме партыі. Разам з ім прыйшлі Іван Вішнеўскі, Аляксандр Крупскі, Сямён Шыкуноў і Аляксандр Ільіч—даўнія баявыя сябры і таварышы. Усе пяцёра былі гатовы выправіцца ў дарогу.

Васіль Іванавіч правёў з імі інструктыўную нараду, растлумачыў мэту іхняга незвычайнага рэйду, вызначыў канкрэтныя задачы і абавязкі групы, удакладніў маршрут.

— Звесткі, якія вы здабудзеце, вельмі неабходны, — яшчэ раз падкрэсліў Васіль Іванавіч. — Але галоўнае — перадайце кіраўнікам раёнаў і камандзірам партызанскіх атрадаў, што абком партыі абавязвае іх узмацняць націск барацьбы з ворагам, асабліва на чыгунках, у гарадах і раённых цэнтрах. Так і скажыце ім: пара, таварышы, ваяваць па-сапраўднаму, каб зямля наша гарэла пад нагамі гітлераўскіх захопнікаў.

Пасля высвятлення ўсіх пытанняў члены спецгрупы атрымалі аўтаматы і па два камплекты патронаў. Мы моцна пацiснулі таварышам рукі і пажадалі ім шчаслівай дарогі...

К таму часу, калі група Буглака вярнулася з задання, Васіля Іванавіча Казлова ў абкоме ўжо не было — ён быў адкліканы ў Маскву, і справаздачу групы прымаў я.

Два месяцы Міхаіл Буглак і яго таварышы былі ў дарозе. За гэты час яны прайшлі не адну сотню кіламетраў, пабываўшы ў 17-ці раёнах Мінскай вобласці. Ужо гэта само па сабе было немалым подзвігам. Абысці столькі раёнаў у тыле ворага вельмі і вельмі нялёгка — на кожным кроку можна было напароцца на варожую засаду ці патруль. І ў тым, што група Буглака даволі шчасліва (было толькі некалькі невялікіх сутыкненняў з гітлераўцамі) справілася з даручэннем, немалая заслуга народных мсціўцаў і мірнага насельніцтва, якія аказвалі пасланцам абкома вялікую дапамогу, а таксама заслуга камандзіра групы Міхаіла Іосіфавіча. Гэта яго разважлівасць і сялянская цвярозая кемлівасць не раз выратоўвалі таварышаў.

За час рэйду члены групы сустрэліся з усімі сакратарамі падпольных райкомаў партыі і камсамола, амаль з усімі камандзірамі брыгад і атрадаў (у прыватнасці, з камандзірамі брыгад В. Т. Варанянскім і В. С. Пыжыкавым, з камандзірамі атрадаў В. Ф. Таруновым і З. І. Нянахавым), пабывалі ў дзесятках вёсак, пасёлкаў і мястэчак. У абком партыі і штаб злучэння група прынесла нямала каштоўных і патрэбных звестак.

Правяла група і вялікую арганізацыйную работу. Так, у час рэйду М. Буглаку і яго таварышам неаднойчы трапляліся групы і атрады народных мсціўцаў, якія імкнуліся ў што б там ні стала перайсці лінію фронту, каб там далучыцца да дзеючых часцей Чырвонай Арміі і разам біць ворага. Члены групы стараліся пераканаць таварышаў, што яны памыляюцца, што трэба заставацца тут, у тыле ворага, тут актывізоўваць сваю баявую дзейнасць, спасылаючыся пры гэтым на нашы ўказанні і на ўказанні ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Большасць таварышаў удавалася пераконваць.

Пасля вяртання з задання група Міхаіла Іосіфавіча зноў уключылася ў баявое жыццё свайго атрада. М. Буглак зноў хадзіў на «жалезку», у засады і на аперацыі па разгроме варожых гарнізонаў. Так, ён удзельнічаў у падрыве чыгуначных мастоў на рацэ Пціч непадалёк ад станцыі Пціч і на рацэ Бобр, каля Аголіцкай Рудні. Група ў складзе Міхаіла Буглака, Аляксея Сіманава, Апанаса Беразоўскага, Канстанціна Новікава і Мікалая Багамолава спусціла пад адхон тры варожыя эшалоны...

І так—да канца, да выгнання нямецка-фашысцкіх захопнікаў з роднай зямлі.

Пасля вайны Міхаіл Іосіфавіч працаваў сакратаром Мядзельскага РК КП(б)Б, начальнікам палітаддзела МТС, загадчыкам аддзела Івянецкага райвыканкома. Цяпер ён — на заслужаным адпачынку.

Яго баявыя і працоўныя подзвігі адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі — ордэнам Леніна і чатырма медалямі.

З другой кнігі ўспамінаў «Вечны агонь».

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# НА ЗАДВОРКАХ ГІСТОРЫІ

У ПРАВЯДЗЕННІ падрыўной ідэалагічнай дзейнасці супраць Савецкага Саюза, іншых сацыялістычных краін імперыялістычная рэакцыя выкарыстоўвае розныя сродкі і метады, карыстаецца дапамогай самых цёмных, антынародных сіл. Пры гэтым нашы ідэалагічныя праціўнікі асноўную стаўку робяць на рэвізіянісцкія і нацыяналістычныя элементы.

«Ва ўсіх камуністычных дзяржавах саюзнікам Захаду з'яўляецца нацыяналізм»,— адкрыта прызнаваўся Д. Загорыа, адзін з амерыканскіх саветолагаў. Разглядаючы нацыяналізм, як «траянскага каня», які павінен садзейнічаць паслабленню адзінства сацыялістычнай сістэмы і падрыву яе магутнасці, ідэолагі антыкамунізма спрабуюць актыўна выкарыстаць буржуазных нацыяналістаў, у тым ліку і беларускіх, асабліва іх верхаводаў—былых памагатых фашысцкіх акупантаў, ваенных злачынцаў і іншых здраднікаў, якія знайшлі прытулак на Захадзе.

Адпрацоўваючы іудушкіны срэбраннікі, гэтыя адшчапенцы беларускага народа паклёпнічаюць на савецкую рэчаіснасць, аказваюць дапамогу разведкам імперыялістычных дзяржаў. Выкрыццё злачыннай і антынароднай ролі буржуазных нацыяналістаў ва ўмовах абвастрэння ідэалагічнай барацьбы — важная і патрэбная справа.

З дастойнай водпаведдзю розным паклёпніцкім вымыслам і домыслам беларускіх буржуазных нацыяналістаў выступалі ў свой час Янка Купала і Якуб Колас, Кузьма Чорны і Змітрок Бядуля, Рыгор Мурашка і Валянцін Таўлай, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка і іншыя пісьменнікі. На старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў неаднаразова публікаваліся артыкулы, фельетоны, памфлеты і вершы Уладзіміра Дубоўкі, Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка, Янкі Брыля, Міхася Машары, Рамана Сабаленкі, Міхася Скрыпкі, Алеся Бажко, якія выкрывалі прадажную сутнасць нацыяналістаў. Аднак напісаныя ў розны час і раскіданыя па розных перыядычных выданнях, гэтыя творы, цікавыя для шырокага кола чытачоў і асабліва неабходныя і карысныя для прапагандыстаў, з цягам часу аказаліся ледзь не «згубленымі». Трэба было «знайсці» іх, вярнуць да другога, больш доўгага жыцця. Іменна такую работу зрабіў Леанід Прокша, які склаў зборнік «На задворках», нядаўна выпушчаны выдавецтвам «Беларусь».

Зборнік адкрываецца артыкулам Міхася Лынькова «Аб вылюдках». «Можа і не варта было б пісаць аб гэтых вылюдках, — гаворыць аўтар,—але справа ў тым, што ёсць яшчэ на свеце людзі, якія могуць і паверыць, бо яны — гэтыя вылюдкі-прайдзісветы — прыкідваюцца адданымі змагарамі за народную справу, за кроўныя інтарэсы народа... Няма на свеце таго паскудства, за якое не браліся б гэтыя найміты. Таму варта іх асцерагацца, варта аб іх пісаць, варта раскрываць перад усім светам звярынае нутро гэтых вылюдкаў, іх крывавае мінулае, іх цяперашнюю халуйскую практыку».

Перад чытачом праходзіць своеасаблівая галерэя бебурнацаў, мацёрых здраднікаў і адшчапенцаў, лакеяў многіх паноў, якія, спрабуючы выслужыцца перад сваімі гаспадарамі-імперыялістамі, не грэбуюць ніякімі сродкамі. Пасобніцтва разведкам імперыялістычных дзяржаў, непасрэдны ўдзел ва ўзброенай барацьбе на баку ворагаў супраць Савецкай Беларусі, паклёпы, правакацыі—вось далёка непоўны пералік з «паслужнога спісу» нацыяналістаў.

Прайшлі гады, але і зараз нельга без абурэння чытаць аб цынічнай і здзеклівай выхадцы нацыяналістаў супраць беларускага народнага паэта Янкі Купалы.

У канцы лютага 1931 года нацыяналістычныя газеткі «Беларускі звон» і «Беларуская крыніца» паведамлялі, што Янка Купала арыштаваны і пакончыў жыццё самагубствам. «Беларускі звон» нават апублікаваў некралог і змясціў партрэт народнага пісьменніка ў чорнай жалобнай рамцы. У гнеўным пратэсце Янка Купала рэзка асудзіў гэтую брудную правакацыю. «Я катэгарычна пратэстую проці такой агіднай хлусні,—пісаў Янка Купала. — Вашай апекі і вашага заступніцтва мне не патрэбна. З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі».

У гэтым жа артыкуле Купала закляйміў Астроўскага за яго чорныя здзелкі з ворагамі беларускага народа. «За такія ўчынкі, панове нацыянал-фашысты, гісторыя помсціцца»,—папярэджваў нацыяналістаў народны паэт.

Злачынную дзейнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў у перадваенныя гады глыбока і аргументавана выкрывалі і іншыя беларускія пісьменнікі. У зборніку чытач знойдзе цікавыя артыкулы, фельетоны і памфлеты Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, у якіх аўтары са з'едлівым сарказмам высмейвалі жалю вартыя патугі нацыяналістаў выдаць сябе змагарамі «за народную справу», яскрава паказвалі ўсю нясдушнасць і нікчэмнасць гэтых «змагароў».

Значная частка зборніка адведзена для паказу чорнай дзейнасці бебурнацаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. І гэта зусім натуральна.

Гітлераўскія акупацыйныя ўлады, як вядома, прадпрымалі розныя спробы актыўна выкарыстаць беларускіх буржуазных нацыяналістаў для прыцягнення на свой бок беларускага насельніцтва. Аднак прывезеная ў абозе нямецка-фашысцкіх войск невялікая кучка нацыяналістаў, якая складалася з палітычных трупаў (Астроўскага, Езавітава, Казлоўскага, Іваноўскага і інш.), выклікала нянавісць народа.

У кастрычніку 1941 года акупанты ствараюць так званую «беларускую народную самадапамогу» з задачай, як вызначыў кат Беларусі Кубэ, «устанаўлення цеснага супрацоўніцтва нямецкіх акупацыйных улад з сумленным беларускім насельніцтвам». Беларускі народ з пагардай адвярнуўся ад нацыяналістычных задум акупантаў. У гэту арганізацыю, апрача вартай жалю кучкі нацыяналістаў, сабранай фашыстамі ў розных закутках, увайшла даволі абмежаваная колькасць былых кулакоў, крымінальнікаў і іншых адшчапенцаў. Правалілася і задума акупантаў стварыць «беларускую цэнтральную раду». Гэты нікчэмны «ўрад», які ўзначаліў Астроўскі, з'яўляўся зброяй гітлераўцаў і абапіраўся на штыкі нямецка-фашысцкіх войск.

Так, беларускі народ са зброяй у руках адверг і «новы парадак» і яго носьбітаўакупантаў. І тым большыя нянавісць і пагарду ў нашага народа, народа-партызана і воіна, выклікалі нацыяналісты, розныя прэзідэнты і бургамістры, прадажныя пісакі астроўскія, іваноўскія, казлоўскія, станкевічы, для якіх здрадніцтва стала прафесіяй.

І зноў загучалі палымяныя і гнеўныя словы беларускіх пісьменнікаў, якія кляймяць нацыяналістаў і раскрываюць подлыя душы гэтых прыхвасняў ворага. Чытач, бясспрэчна, з цікавасцю прачытае фельетон «Чаго ж яна «рада»?» Кандрата Крапівы, вершы «Дзеячам цэнтральнай здрады» і «Гандляр» Валянціна Таўлая. Кароткія, але трапныя характарыстыкі палітычным манекенам Ермачэнку, Гадлеўскаму, Касмовічу даў пісьменнік-партызан Рыгор Мурашка.

Беларускі народ выказаў сваё стаўленне да нацыяналістаў прама і мужна: Казлоўскі, Іваноўскі і іншыя былі знішчаны народнымі мсціўцамі.

Парадзелі і без таго не густыя рады нацыяналістаў. Астроўскага, Абрамчыка,* Станкевіча і Казака, якія выпадкова ўцалелі і ледзь вынеслі ногі ад народнай адплаты, прытулілі новыя гаспадары. Убіраючыся ў тогу «шчырых сяброў» беларускага народа, гэтыя лакеі брэшуць з імперыялістычнай падваротні на савецкую рэчаіснасць, мутныя хвалі радыёстанцыі «Свабода» нярэдка даносяць хрыплыя і прадажныя галасы нацыяналістаў. У газетах яны публікуюць артыкулы, якія дыхаюць злосцю і нянавісцю да беларускага народа. Асабліва стараецца дробны шулер ад журналістыкі Станкевіч, як трапна назваў яго Янка Брыль.

У гады вайны, здрадзіўшы Радзіме, Станкевіч па-халуйску прыслужваў акупантам, з'яўляўся бургамістрам горада Барысава. Жыхары гэтага горада, працоўныя Беларусі ніколі не забудуць і не даруюць Станкевічу яго злавеснай ролі ў вывазе на рабскую працу ў Германію беларускіх юнакоў і дзяўчат, у знішчэнні мірнага насельніцтва горада Барысава. Акапаўшыся ў пасляваенны час у радыёстанцыі «Свабода», якая знаходзіцца на ўтрыманні Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША, ваенны злачынца спецыялізуецца ў ролі літаратурнага каментатара. У так званых рэцэнзіях былы бургамістр па-шулерску скажае змест твораў беларускіх пісьменнікаў, назойліва раіць літаратарам, асабліва маладым, «вызваліцца ад палітычнай тэндэнцыёзнасці».

Гнеў і агіду выклікаюць у нашых пісьменнікаў парады няпрошаных апекуноў тыпу Станкевіча. Дастойную водпаведзь былому бургамістру і іншым злачынцам з нацыяналістычнага балота далі ў змешчаным у зборніку артыкуле «Не вам беларусамі звацца» Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка і Іван Чыгрынаў.

Зборнік дасць чытачу магчымасць выразней убачыць каварную ролю беларускіх буржуазных нацыяналістаў, глыбей зразумець, што нацыяналісты ніколі не былі нацыянальнай з'явай у жыцці нашага народа. Прачытаўшы зборнік, чытач, безумоўна, услед за Петрусём Броўкам паўторыць: «Можна з упэўненасцю сказаць, што, апрача саміх сябе, нікога яны (беларускія буржуазныя нацыяналісты. — **І. Р.**) не прадстаўляюць».

Зборнік «На задворках» з цікавасцю і карысцю прачытаюць і нашы зарубежныя суайчыннікі.

Надзённую кнігу выпусціла выдавецтва «Беларусь».

**І. РАЖКОЎ.**

«На задворках». Артыкулы, фельетоны, памфлеты. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

* Памёр у гэтым годзе ў Парыжы.

# ПЕСНІ З ВЯЛІКАГА ПАХОДУ

Я з пільнай увагай сачу за творчасцю Пятра Прыходзькі. Некалі мы пачыналі разам шукаць сцежкі ў літаратуру.

Прыгадваецца 1950 год. Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва», дзе я ў той час працаваў, атрымала ад Пятра Прыходзькі цыкл новых вершаў. Дасланы яны былі з Патсдама, з акупіраванай Германіі. З вершаў паўставаў вобраз салдата, які адчуваў сваю высокую гуманістычную місію, які пільна сачыў, каб там, на нямецкай зямлі, усталёўвалася новае добрае і справядлівае жыццё, без істэрыкі фюрэраў, без вар'яцкага шабашу фашысцкіх малойчыкаў.

Мы радаваліся за паэта. Свежа, проста, усхвалявана выказаў ён свае думкі і пачуцці. Мы не бачылі Эльбы, Патсдама, Брандэнбургскіх варот. І ўсё гэта нам паказаў паэт праз свае вершы, праз свой глыбокі паэтычны роздум.

Тым часам Пятро Прыходзька заняў трывалае месца ў шарэнгах маладых паэтаў. Неўзабаве паэт вярнуўся з Патсдама, зняў салдацкі шынель. Нараджаліся кніга за кнігай. Не ўсе яны, прызнаемся, былі роўныя, як след прадуманыя, але ў кожнай пульсавала крынічка нашага жыцця, нашага напружанага і нялёгкага часу.

І вось новы зборнік П. Прыходзькі «Калінавыя зоры». Пад адной просценькай вокладкай некалькі дзесяткаў вершаў і паэма «Водгулле мора».

Скажам адразу: і ў новай кнізе паэт верны магістральнай у сваёй творчасці тэме — ён пясняр ратнага подзвігу салдата, ён жыве той вялікай перамогай, што прыйшла як чаканая ўрачыстасць у маі 1945 года. П. Прыходзька паказвае савецкага салдата як чалавека, які выхаваны Радзімай і партыяй на высокіх ідэях дабраты, гуманнасці. Вельмі дасціпна і тонка гэтая асаблівасць нашага воіна перададзена ў вершы «Помніць вёска, як калісьці...». Сюжэт твора не складаны. Па вуліцы размераным крокам пад песню рухаецца воінскае падраздзяленне. Тым часам, заўважае паэт, «пад грушай у калысцы спіць салодка немаўля». Над дзіцем, шчаслівая, схілілася маці. І вось «скончыць песню! — даў каманду старшына». Пасля, калі застануцца ззаду і платы, і чарэшні, калі рота выйдзе за вёску, зноў каманда: «— Запявай!» Дэталь сціплая, але як яна хораша асвятляе ўвесь верш! Дарэчы, паэт досыць часта карыстаецца мастацкай дэталлю, каб наблізіць навакольны свет да чытача, каб паказаць рэчаіснасць у руху, у вобразнай навізне.

Ёсць у зборніку маналогі-споведзі. Да такіх належаць вершы «Другу — франтавіку», «Не часта табе я ў любві прызнаюся», «Паверка». Праз унутраны маналог выказвае паэт сябе, сваё «я». Адзін з гэтых вершаў хочацца амаль цалкам працытаваць:

Дзе зараз ты, мой друг, салдат Айчыны?  
Грыміць і сёння на планеце бой,  
І вораг кваціцца не без прычыны  
На ўсе вышыні, што ўзялі з табой.  
Хачу спаткацца, дружа, зноў з табою,  
Праверыць пільнасць слова і свінца.  
Бо я заўсёды быў  
На полі бою—  
І буду заставацца да канца.

(«Другу—франтавіку»).

Тут, у гэтым паэтычным звароце да баявога сябра — крэда паэта, яго жыццёвы прынцып. Грамадзянская лінія ў асваенні рэчаіснасці — найбольшае, што прыцягвае ўвагу чытача ў новым зборніку П. Прыходзькі. У паэта, вядома, ёсць вершы і пра «кветкі яснавокія», і пра «водар пушчаў і азёраў», і пра «чараўнічыя вясёлкі», з якіх «разгортвае крылы ўсход». Аднак, плынь думкі ў такіх вершах — у рэчышчы нашага жыцця, нашых клопатаў і трывог. Дарогі вайны ў вершах паэта скрыжаваны з сучаснасцю. Вось чаму яны ў многім драматычна-напружаныя, нясуць на сабе і водсветы адгрымеўшых баёў і яву нашых будняў.

Нельга чытаць без хвалявання вершы «Хатынскія званы», «Пагляджу на шынель»..., «Брантазаўр — не простая машына» і іншыя. Паэт горды за сваё пакаленне, за сваю маладосць, якая вытрымала вялікае выпрабаванне.

Як вядома, вельмі многа твораў напісана паэтамі аб Радзіме, аб родным краі, дзе бегала басаногае маленства, адкуль пачыналіся дарогі за сіні лес, за небасхіл, у далёкія гарады і нязведаныя краіны. Прыходзька таксама дакрануўся да гэтай вялікай і эмацыянальна-высокай тэмы. Мусім адзначыць, што ў меру свайго таленту ён сказаў і тут сваё нейкае прыкметнае слова.

Значную частку зборніка займае паэма «Водгулле мора». Паэт звярнуўся да рэвалюцыйнай тэматыкі. Чым далей аддаляюцца падзеі векапомнага Кастрычніка, тым большую яны набываюць рамантыку. І так шчасліва зышліся абставіны, што паэту давялося напісаць твор, у якім галоўным героем з'яўляецца аднафамілец Прыходзька, матрос з Балтыкі: у якасці каменданта цягніка ён едзе з Піцера разам з новым Галоўнакамандуючым у Магілёў, дзе была стаўка рускага войска. У вагонах —матросы, з імі Крыленка—новы Галаўком, і камендант цягніка, хлопец з-пад Хоцімска, з Магілёўшчыны. Задача рэвалюцыйнага атрада адказная: узяць Стаўку. Гэта загад рэвалюцыі, загад Леніна.

Тэма, як бачым, надзвычай удзячная і адказная. Але паэме, трэба прызнаць, нестае маштабнасці, злітнасці слова і вобраза, якія б маглі падкрэсліць падзеі таго бурнага і трывожнага часу.

Вершы нараджаюцца, як піша сам паэт, «і знітаваныя добра», а выклікаюць у нас, чытачоў, пачуццё незадаволенасці. Дзе прычына? Давядзецца адзначыць эмацыянальную прыглушанасць, інертнасць некаторых паэтычных твораў П. Прыходзькі. Бывае перакос і ў іншы бок: паэт часам робіцца эмацыянальна і эстэтычна непераборлівым. Трэба берагчы паэзію ад штучнасці і стыхійнага абвалу думкі.

П. Прыходзька ў вершы «Мне не забыць акоп на полі бою» гаворыць:

Таму нясу я праўду святую  
ў людскія сэрцы,  
ў кожны кут і дом.  
У полк паэзіі,  
дзе ўласны голас чую,  
іду служыць заўжды палітруком.

Паэт узяў на сябе вялікі пачэсны абавязак. Нам здаецца, што ён не звузіць абсягі свайго таленту і пастараецца здзейсніць сваё жыццёвае крэда.

**Мікола ГАМОЛКА.**

Пятро Прыходзька. «Калінавыя зоры». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.





# БРАТЭРСТВУ ПАРТЫЗАНСКАМУ



Калі ішла вайна народная супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, неўвядальнай славай пакрылі сябе Беларусь-партызанка і Літва-партызанка, змагаючыся плячо ў плячо, падзяляючы горыч страты дарагіх і блізкіх, слодыч помсты і непахісную веру ў перамогу нашага Саюза ССР над варварамі дваццатага стагоддзя.

У гонар партызанскага братэрства беларусаў і літоўцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны з цягам часу будзе ўстаноўлены паблізу перасячэння граніцы дзвюх братніх рэспублік і шашы Вільнюс—Мінск спецыяльны мемарыял.

Які ён будзе, гэты помнік! Натхнёна працуюць над яго стварэннем беларускія і літоўскія дойліды, скульптары, мастакі. Пэўнае ўяўленне аб тым, што ўжо зроблена, дае экспазіцыя конкурсных праектаў гэтага мемарыяла, разгорнутая ў Мінскім Палацы культуры камвольнага камбіната. У экспазіцыі прадстаўлены праекты, створаныя наступнымі аўтарскімі калектывамі: першы—архітэктары В. Бялянкін, Э. Гальдштэйн, В. Чарназёмаў, скульптар Р. Казлаускас, мастак М. Данцыг (праект уверсе справа); другі—архітэктар Р. Шылінскас, скульптар Г. Мурамцаў (праект другі справа); трэці—архітэктары Э. Гальдштэйн, Б. Гузас, Т. Мінкевічус, скульптары Р. Казлаускас, Д. Жукаускас (праект уверсе злева); чацвёрты—архітэктары І. Есьман, П. Кракалёў, Б. Ларчанка, В. Марцьянаў, А. Паслайціс, скульптары К. Кісяліс, В. Палійчук (праекты злева і справа ўнізе).





## ЯНЫ ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



Літаратуразнаўца Ісідар БАС нарадзіўся ў 1913 годзе ў горадзе Віцебску. Скончыў у 1936 годзе інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава, а ў 1947 годзе аспірантуру Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Працаваў загадчыкам аддзела савецкага будаўніцтва газеты «Советская Белоруссия», загадчыкам кафедры літаратуры настаўніцкага інстытута, старшым выкладчыкам педагагічнага інстытута ў Гродна. З 1958 года — дацэнт кафедры літаратуры і журналістыкі Мінскай вышэйшай партыйнай школы. Аўтар шматлікіх навукова-даследчых артыкулаў і кнігі «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні» (1969 г.). Член КПСС.



Празаік Міхась ВЫШЫНСКІ нарадзіўся ў 1940 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў настаўнікам, рэдактарам у выдавецтве «Беларусь». Цяпер настаўнічае на Міншчыне. Выдаў зборнік апавяданняў «Вокны ўначы» (1969 г.).



Празаік Эдуард ЯРАШЭВІЧ нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Бабруйску. У 1954 годзе скончыў сярэднюю школу. Выдаў кніжкі апавяданняў «Вішанькі Восіпа Міхеевіча» (1969 г.) і «Прызнанне» (1969 г.).



## Дзмітрый Іванавіч КАМАРОЎ



Пасля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі мастак і педагог Дзмітрый Іванавіч Камароў.

Д. І. Камароў нарадзіўся ў 1883 годзе ў Растоўскай вобласці ў сям'і селяніна. Вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў.

Пасля вучобы Д. І. Камароў займаўся творчай і педагагічнай дзейнасцю. Шмат сіл і ведаў аддаў ён выхаванню маладых мастакоў, працуючы выкладчыкам спачатку ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, а затым у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце.

У апошні час Д. І. Камароў знаходзіўся на пенсіі.

Светлая памяць пра Д. І. Камарова назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА МАСТАКОЎ БССР.

## Аляксандр Пятровіч МАЗАЛЁЎ



Цяжкая хвароба абарвала жыццёвы і творчы шлях таленавітага беларускага мастака Аляксандра Пятровіча Мазалёва.

А. П. Мазалёў нарадзіўся ў 1910 годзе ў Рудні Смаленскай вобласці ў сям'і селяніна. Спецыяльную адукацыю атрымаў у Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна ў Ленінградзе.

Пасля сканчэння інстытута мастак займаўся педагагічнай і творчай дзейнасцю ў Луганску і Віцебску.

У гады Вялікай Айчыннай вайны А. П. Мазалёў прымаў актыўны ўдзел у падпольнай рабоце ў тыле ворага, змагаўся ў радах Савецкай Арміі. Пасля цяжкага ранення гвардыі радавы А. П. Мазалёў прыязджае ў Мінск, дзе актыўна ўключаецца ў творчае жыццё.

А. П. Мазалёву належыць шэраг значных тэматычных твораў, пейзажаў, партрэтаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускага выяўленчага мастацтва.

Апрача творчай работы, А. П. Мазалёў доўгі час займаўся педагагічнай дзейнасцю ў Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, выхаваў многа таленавітых мастакоў.

Светлы вобраз А. П. Мазалёва назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА МАСТАКОЎ БССР.

# ...ПА СІЛЕ ПАКАЗУ, ПА ГЛЫБІНІ ПРАНІКНЕННЯ СТАІЦЬ НА АДНЫМ З ПЕРШЫХ

Міхась СТРАЛЬЦОЎ

## ШЫРОКАСЦЬ

I

ШТО такое пейзаж?

Кожны мастак адказвае на гэтае пытанне па-свойму. Па-свойму адказвае на яго і Чорны, які карыстаецца пейзажам да надзвычайнасці шчодра, захоплена, нібы спаборнічае з самой прыродай.

Як бы ні вызначалі мы ролю пейзажа, несумненна давядзецца прызнаць адно: роля гэтая найчасцей дваістая. Пейзаж нясе ў сабе як канструктыўны, так і «ідэалагічны» пачатак. У першым выпадку ён выступае як мастацкі кампанент твора, у другім — як каардыната жыццёвай, філасофскай канцэпцыі аўтара.

II

АПОШНІМ часам слушна гавораць пра блізкасць Чорнага да Дастаеўскага.

Яшчэ раней шмат гаварылі, што ў Чорнага свой, злакалізаваны ледзь не да межаў Цімкавіч і разгорнуты тым часам да універсіяльных адзнак усечалюдскасці свет.

Усё гэта праўда, усё гэта так.

У Дастаеўскага таксама свой свет. У чым жа розніца і ў чым падабенства іх светаў?

Падабенства ў «ідэалагічнай» замкнутасці вобраза чалавека, у дапушчальнай роўназначнасці ідэі, якой надзелены кожны персанаж. Ідэі сутыкаюцца і тым часам як бы суіснуюць. Наяўнасць спрэчкі, дыялогу, дэкларацыя права кожнага персанажа на сваю праўду—характэрныя для Дастаеўскага і Чорнага.

Разыходжанні пачынаюцца там, дзе справа тычыцца выхаду ў матэрыяльны і сацыяльны свет.

Дастаеўскі ў нейкім эстэтычным парыве свядома ці несвядома пазбаўляе чалавека радасці ад сузірання з'яў «жывога жыцця»: чалавек у пэўным сэнсе апыняецца як па-за побытам, так і па-за прыродай. Паспрабуйце ўявіць, чым займаюцца героі Дастаеўскага ўвесь той час, калі не «заяўляюць сваё сваволства» і не вырашаюць сваю пакутлівую «ідэю». Зрабіць гэта будзе цяжка.

А ягоны пейзаж?

Нагрэтыя камяніцы пецярбургскіх кварталаў, ад гарачыні паветра аж трымціць, цяжка стукае чалавеку ў скроні: чалавек, здаецца, вось-вось страціць прытомнасць. Брудныя, прапыленыя тракціры з абскубанай канарэйкай. Змардаваны душэўнымі пакутамі, утрапёны, глядзіць адсюль чалавек на брудную вуліцу, дзе перадвечаровы вецер мяце па бруку шорсткі пясок. Жоўтае, бяссільнае, як скон, лье на захадзе святло нізкае сонца. Чалавек выходзіць на вуліцу. Душэўная ўзрушанасць гоніць яго ў невядомасць, а на захадзе шчымліва гарыць, плавіцца, памірае барвовая палоска вечаровай зары: гэта аднекуль здалёк, з невядомасці падаюць чалавеку знак другія светы. Пра што яны кажуць? Пра недасяжнасць гармоніі на гэтай зямлі, пра недасяжнасць гармоніі наогул?..

III

«ПЯЦЬ дзён свяціла сонца, дарогі ўсе пахлі вільгаццю пасля дажджоў — чорныя з жоўтымі адценнямі гліны. Іржышча было такое пустое і такое ціхае. І ад сонца здавалася **шырокім** усё: і глыбокае неба, і спустошаная на зіму ўраджаем зямля, і нават дробны камень пасярод палявой травы і зрэзанай саломы, — усё да туманнай сіні блізкіх лясоў, да рэчак і азёр, да дзеравяных хат і мураваных будынкаў, да ўсяго маладога і вялікага, сярод чаго так пазнаны былі вялікія **бунты радасці і смутку**».

Або:

«Зямля — **як размах чалавечай радасці — шырокая, бяскрайняя,** здольная будзіць **вялікія імкненні пачуццяў і думак**».

Гэта, вядома, Чорны. Калі хочаце, назавіце гэта ўхвалай гармоніі.

М. МУШЫНСКІ

## ЗА НОВАГА ЧАЛАВЕКА

РОЗДУМ НАД РАМАНАМ «ІДЗІ, ІДЗІ...» К. ЧОРНАГА

ЧОРНЫ — мастак надзвычай дзейснай творчай натуры, яго ўзаемаадносіны з рэчаіснасцю, з рэальнымі жыццёвымі героямі даволі складаныя. Сіла і своеасаблівасць Чорнага-раманіста, прырода яго эпічнасці — ва ўменні стварыць сваю, непаўторна чорнаўскую мастацкую рэчаіснасць, не менш рэальную і багатую, чым яе прататыпы. Мера мастацкага пераасэнсавання, пераўтварэння жыццёвых з'яў у пісьменніка вельмі высокая. У спрэчцы са стыхіяй факта, у пераадольванні дыктату рэчаіснасці Чорны-мастак найчасцей выходзіў пераможцам. Здольнасцю ствараць свой адметны мастацкі свет і сваіх герояў пісьменнік валодаў дасканала. Чорны адразу раскрывае перад чытачом такія ўзаемадачыненні людзей, якія ўражваюць навізной, непадобнасцю, незвычайным аспектам, упершыню ўбачаным, выяўленым раманістам. З пункту гледжання бытавой, паўсядзённай логікі, павярхоўна ўспрынятых прамых прычынна-выніковых сувязей многае ў раманах Чорнага будзе здавацца і не зусім зразумелым і не заўсёды мэтазгодным.

Усе буйныя творы Чорнага, нягледзячы на значную адметнасць ідэйнай праблематыкі і жанравую адрознасць, маюць у самім змесце, у сваім пафасе многа агульнага. Гэта і зразумела: тыя пласты рэчаіснасці, грамадскія, сацыяльна-псіхалагічныя канфлікты, якія адкрыў Чорны як мастак-раманіст, былі па-сапраўднаму невычарпальнымі. Таму зусім лагічна, што ў кожным наступным творы пісьменнік зноў і зноў вяртаўся да ранейшых тэм, вобразаў, матываў.

Пошукі К. Чорным змястоўнай раманічнай формы з самага пачатку творчай дзейнасці вызначаліся смеласцю і інтэнсіўнасцю (раманы «Сястра», «Зямля»). Значнае месца ў гэтых пошуках заняў раман «Ідзі, ідзі...» (1930)—твор надзвычай цікавы па ідэйнай праблематыцы, унутранай пабудове, але, думаецца, недастаткова ацэнены яшчэ нашай крытыкай.

«Ідзі, ідзі...» у самой задуме нясе выразную тэндэнцыю ўвабраць у свой змест матэрыял шырокага эпічнага плана. Рэвалюцыя і духоўнае выпрамленне чалавека, класавая размежаванасць вёскі пачатку калектывізацыі, тэма радзімы, лёсу нацыянальнай культуры ва ўмовах сацыялістычнага ладу, тэма ролі і месца нацыянальнай інтэлігенцыі ў барацьбе за новыя асновы жыцця, у сутыкненні двух светаў—вось якія аспекты рэчаіснасці канца 20-х—пачатку 30-х гадоў узняты ў творы. Праўда, некаторыя з іх, пра што сведчыў і сам аўтар, раскрыты эскізна. Асобныя неразгорнутыя сюжэтныя лініі, якія пісьменнік збіраўся паглыбіць пры падрыхтоўцы асобнага выдання, былі перанесены ў пазнейшыя творы («Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне»).

«Ідзі, ідзі...» задумваўся Чорным не толькі як эпічны твор складанай сюжэтнай пабудовы, твор са шматпланавай кампазіцыяй, але і як раман філасофскі. Праблематыка твора дае падставу для падобнай ацэнкі жанравай сутнасці рамана, хоць з пункту гледжання глыбіні і пераканаўчасці выяўлення мастацкай ідэі не ўсё ў роўнай меры ўдалося аўтару. Што, аднак, прываблівае ў творы—дык гэта па-сапраўднаму раманічны падыход да праблемы рэвалюцыі і новага чалавека.

«— Вы думаеце, што той новы чалавек, пра якога вы мне тады чыталі ў сваіх вершах, будзе толькі таму новы, што будзе абуты, негалодны, адзеты?.. Ну, адным словам, выратуецца з сацыяльных бядот, а сам які быў, гэтак і застанецца? Поўны новы чалавек пачнецца тады, калі з яго будзе вытраўлены апошні цень ад пачуцця ўсялякага акафіста ў дачыненні да каго і да чаго б там ні было... Акафістаў рэвалюцыя не прымае... Акафіст—гэта «славословие», нявольніцтва». Такі глыбокі, філасофскі погляд на рэвалюцыю і шляхі вызвалення чалавека ад змрочнага мінулага, ад рабскай псіхалогіі, узгадаванай шматвяковай эксплуатацыяй, падаўленнем чалавечай свабоды, з'яўляецца стрыжнявым момантам ідэйнай канцэпцыі рамана. Структура яго цалкам абумоўлена задачай раскрыцця гэтай канцэпцыі.

Выяўленне чалавечых узаемаадносін, імкненне герояў да самапазнання і ўзаемазбліжэння становіцца ў рамане ўсевызначальным прынцыпам, які дастасоўваецца не толькі да галоўных, але нават і эпізадычных персанажаў. Успомнім сцэну на кватэры старога доктара. Улюбёныя «чудные два левкоя» жонкі доктара як праяўленне густаў і разам з тым як характэрная адзнака пэўнага тыпу светаадчування, тыпу ўзаемаадносін асобы з рэчаіснасцю, зусім непрымальныя, чужыя Галене. І гэта добра разумее стары доктар: «Вы і яна (глянуў на жонку) ніколі не сыйдзецеся. От мы і высветлілі ўсё. Цяпер нам будзе лягчэй гаварыць». Да такой выразнасці ва ўзаемаадносінах імкнуцца і ўсе героі рамана. Аднак дайсці да ўзаемнага разумення нялёгка людзям розных сацыяльна-класавых поглядаў і інтарэсаў. Логікай гістарычнага развіцця грамадства, заснаванага на няроўнасці, на праве моцнага над слабым, род Сегеняў раскрыжаваўся па розных дарогах. У такой схеме—Сегень-бядняк, Сегень-кулак, Сегень-пралетар і, нарэшце, Сегень-чыноўнік—можна бачыць пэўную зададзенасць, але яна не ўспрымаецца як схематызацыя, парушэнне жыццёвай праўды. У раманах Чорнага заўсёды ёсць нешта ад высокіх жанраў мастацтва, ад трагедыі, драмы, а ў гэтых жанравых формах умоўнасць падобнага тыпу—арганічная якасць. Без яе не можа абысціся мастак, калі ён хоча сказаць вялікую праўду пра чалавека і эпоху, якая яго ўзрасціла, а не слізгацца па паверхні з'яў, захоўваючы наіўную адпаведнасць і таннае праўдападабенства. Кіруючыся такімі меркаваннямі, пісьменнік вельмі смела і свабодна карыстаецца выяўленчымі сродкамі і сюжэтна-кампазіцыйнымі прыёмамі, уласцівымі самым розным жанравым формам, у тым ліку і прыгодніцкім жанрам. Аднак гэта не эпігонскае паўтарэнне, не механічнае перайманне старых, даўно выверапых сродкаў мастацкага выяўлення і кампазіцыйнай арганізацыі твора. У Чорнага мастацкі прыём заўсёды глыбока змястоўны. Так, тыя ж дэтэктыўныя элементы ўжыты не як распаўсюджаны прыём завастрэння знешняй інтрыгі. Яны выконваюць тут выразную структура-ўтваральную ролю. Замах на жыццё аднаго з герояў, пошукі вінаватага, устанаўленне сацыяльных і індывідуальных матываў паводзін і ўчынкаў чалавека, які падазраецца ў замаху,—гэта і ёсць пачатак пошукаў героямі ісціны, шляхоў збліжэння, праўды пра чалавека і час, пошукаў свайго месца ў жыцці, у барацьбе, чым якраз і заняты героі рамана: Галена, Зося, браты Пніцкія, Наталя.

У непасрэднай сувязі з прыёмам распазнавання, на якім многае трымаецца ў сюжэтна-вобразнай сістэме рамана, знаходзіцца і тып паводзін герояў, у прыватнасці, іх схільнасць да працяглых размоў, дыялогаў, гутарак. Дыялогі, спрэчкі, палеміка з'яўляюцца тут сродкам выяўлення інтэлектуальнага, філасофскага пачатку. Пісьменнік дае сваім героям выгаварыцца да канца. Ён не перабівае іх, не спяшаецца абвергнуць прамоўцаў. І яны, выкарыстоўваючы гэтае права, паступова распазнаюць саміх сябе, блізкіх, сваю дарогу ў жыцці. Паступова Андрэй Пніцкі перастае «енчыць і хітрыць», каб памаглі яму «стаць на ногі». Гэтак жа знаходзіць сябе і Зыдор Пніцкі, «смешны, абшарпаны і абадраны спрадвечна, здаецца, бядак, з спрадвечнаю сваёй бядачаю капеечнаю хітрасцю». Чорны паказвае, як паступова адтайваюць іх схаладзелыя сэрцы, цяплее на душы, і яны са здзіўленнем пачынаюць прыслухоўвацца да ўнутранага голасу. «... і ён адчуваць стаў, што пачало з'яўляцца ў яго замілаванне да гэтай спрацаванай жанчыны, чаго ўжо доўгія гады не было. Жылі яны ўжо, як чужыя». Гэта вялікая трагедыя чалавека, калі ў яго непрыкметна знікаюць пачуцці таварыскасці, дабраты, спагадлівасці. «Як успамінаў брата, твар яго засвяціўся добраю, слаўнаю лагоднасцю. І такая жывая, вялікая ласкавасць ляжала на гэтым твары і не сходзіла доўга, аж пакуль ён ішоў дадому і думаў пра свайго брата». Вось гэта і было адчувальнай перамогай чалавека, рашучым яго крокам па шляху ў новае жыццё. Таму і плача ціхімі радаснымі слязьмі Галена ў сваёй замілаванасці да людзей, якія «выкіроўваюцца цяпер на сваю сапраўдную дарогу».

Для большасці герояў вытворчая дзейнасць з'яўляецца адным з самых актыўных фактараў фарміравання новых поглядаў, новых адносін да

# Ў ЧАЛАВЕЧУЮ ПСІХАЛОГІЮ ГЭТЫ ЯРКІ ТАЛЕНТ МЕСЦ У БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ

*Якуб* ***КОЛАС***

IV

АСНОЎНАЯ адзнака ягонай творчасці — менавіта «шырокасць». Чорны любіць выводзіць чалавека на прасторы жыцця. Мадэль чалавек-свет для яго — устойлівая ў сваёй пастаяннай рухомасці. Канкрэтызацыя гэтай мадэлі (асоба — грамадства) падрыхтавана пазнаннем сацыяльнага зместу рэчаіснасці. Інакш не магло быць: Чорнага нарадзіла рэвалюцыя.

Вось чаму і пейзаж у Чорнага пасвойму сацыяльны, канцэпцыйны. Вялікія буры «радасці і смутку» паўсюль прасякаюць яго.

Пейзаж у Чорнага, нягледзячы на яго надзвычайную выяўленчую канкрэтнасць, часта выступае як адухоўленае, валявое ўвасабленне стыхіі прыроды, і яна ўжо, гэтая стыхія, часта зноў жа як бы імітуе, адбівае стыхію сацыяльную.

«У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры».

Гэта сказана ў адным з ранніх апавяданняў. Але прынцып, выказаны там, застаўся вызначальным для творчай практыкі Чорнага і, у прыватнасці, для яго пейзажа.



Шчаслівая выпадковасць... Збег акалічнасцей... Яны, бывае, здольныя прыносіць нам дарункі, якім, калі гаварыць па вышэйшым рахунку, няма цаны...

Не акажыся аднойчы пад рукамі ў мастака кавалка ватмэну і пяра — не было б гэтага малюнка, на якім — Кузьма Чорны. Такім яго ведалі ўсе, хто сустракаўся з ім у незабыўным 1944 годзе, калі было ўжо абсалютна ясна, што неўзабаве Беларусь будзе вызвалена ад фашысцкіх катаў.

Аўтар гэтага графічнага партрэта пісьменніка — мастак Зянон Паўлоўскі. Ён прыгадвае абставіны, пры якіх зроблены малюнак:

— Аднойчы ў сорак чацвёртым у Маскве, у рэдакцыі газеты «Известия», што на Пушкінскай плошчы, сабраліся беларускія пісьменнікі і мастакі на нараду. Гаворка ішла пра арганізацыю часопіса «Беларусь». Зразумела, Кузьма Чорны не мог не прыйсці на такую нараду. Пагледзеў я, як сядзіць ён у такой характэрнай позе, абаперышыся на кій, — і пацягнула зрабіць замалёўку. На шчасце, ляжаў на стале кавалак ватмана. Мне перадалі пяро. І пакуль усе гаварылі, я і зрабіў накід... Тут падыходзіць да мяне Васіль Вітка і кажа: «Зянон Станіслававіч, падаруй!..» Я падараваў яму малюнак. А пасля і сам забыўся пра гэтую работу...

Вось, здаецца, і ўся няхітрая гісторыя малюнка, такога дарагога кожнаму з нас, хто любіць творчасць Кузьмы Чорнага. Арыгінал малюнка захоўваецца ў Васіля Віткі, фотакопія ёсць у музеі Цімкавіцкай школы, звязанай з пачаткам жыцця Кузьмы Чорнага.

жыцця. Так, менавіта праца Зыдора Пніцкага на фабрыцы, знаходжанне сярод калектыву рабочых дапамаглі яму адчуць сябе новым чалавекам. Ва ўзаемаадносінах з найбольш свядомымі калгаснікамі (Апанас Сегень, Зэня) мяняецца і псіхалогія Андрэя, ірвуцца тыя путы, якія звязвалі яго з цяжкім мінулым. Праўда, у вырашэнні праблемы героя і асяроддзя не абышлося без выдаткаў. Яны звязаны з тым, што іменна вытворчыя пытанні ў «чыстай», неачалавечанай форме часамі выходзілі ў рамане на першы план. Вытворчай дзейнасцю аўтар іншы раз спрабаваў непасрэдна, прама вытлумачыць і паказаць змены ў чалавечай псіхалогіі. Адзнакі пэўнай аблегчанасці, паскоранай эвалюцыі характару заўважаюцца і пры абмалёўцы вобразаў тых жа Андрэя і Зыдора. І ўсё ж «Ідзі, ідзі...» менш за ўсё падыходзіць пад характарыстыку «вытворчага», «калгаснага» рамана. Галоўнае ў ім — чалавек, рух яго характару, чалавеказнаўчыя праблемы ў іх філасофска-этычным аспекце.

У выяўленні і паглыбленні філасофскага пачатку, у афармленні рамана як твора шматпланавай кампазіцыі важную ролю выконваюць побач са спрэчкамі, дыялогамі, прамовамі, палемікай герояў яшчэ і іх асабістая, прыватная перапіска. Слова героя, аформленае як слова пісьмовае, актывізуе жыццёвую пазіцыю гэтага героя, яго адносіны да асяроддзя, да барацьбы, якая адбывалася ў свеце. Героі не проста ўстанаўліваюць дзелавую сувязь з тым, каму адрасуюць ліст. Яны заўсёды глыбока раздумваюць над зместам напісанага, прыходзяць да нейкіх новых вывадаў. Чорнаму ў яго рамане патрэбен быў інтэлектуальны герой. Чорны шукаў такога героя адначасова з пошукамі змястоўнай формы філасофскага рамана.

Вялікая роля належала эпісталярнаму матэрыялу, пісьмоваму слову героя і ў сюжэтна-кампазіцыйным афармленні рамана. Лісты давалі багатую магчымасць устанаўліваць сувязь розных часоў, мінулага і сённяшняга, звязваць розныя сюжэтныя лініі і звенні ў адно цэлае, канцэнтраваць, «сцягваць» дзеянне ў моцны сюжэтны вузел. Нельга сказаць, што аўтару ўдалося дабіцца аднолькава моцнага шчаплення ўсіх сюжэтных звенняў, г. зн. справіцца з шматпланавай сюжэтнай кампазіцыяй. Такога шчаплення раману яшчэ не хапала, але для далейшай практыкі вопыт працы над гэтым творам меў вялікае значэнне. «Ідзі, ідзі...» — гэта значная з'ява ў гісторыі станаўлення буйных жанравых форм беларускай мастацкай прозы.

Леанід РАХЛЕНКА

# У ДРАМАТУРГІЧНЫМ «ПЕКЛЕ»...

*УРЫЎКІ З УСПАМІНАЎ*

АДНОЙЧЫ ў верасні 1931 года сабраліся мы ў тэатры абмеркаваць пытанне — чым сустрэнем 15-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка, да святкавання якой застаўся ўсяго адзін год. Думалі, які можам стварыць спектакль, чым парадаваць нашага гледача. Хацелася зрабіць нешта цікавае, значнае, вартае вялікай даты. І яшчэ хацелася замацаваць і пашырыць той вялікі леташні поспех, які выпаў на нашу долю ў часе выступлення тэатра ў чэрвені 1930 года ў Маскве на Алімпіядзе мастацтва народаў СССР. Гэта было вялікае свята савецкай культуры. Першы БДТ паказаў два спектаклі — «Гута» Р. Кобеца і «Міжбур'е» Д. Курдзіна ў пастаноўцы Е. Міровіча. Зазначу, што гэтыя п'есы былі створаны ў сумеснай плённай працы тэатра з драматургамі.

І вось у сэрцах нашых жылі яшчэ зусім свежыя ўспаміны аб тых падзеях і аб поспеху тэатра. Яны і натхнялі калектыў на новыя творчыя пошукі. Хацелася зрабіць гераічны па сваім характары спектакль аб жыцці і барацьбе беларускага народа за сваю незалежнасць і свабоду, аб шчасці, здабытым у полымі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. А п'есы такой не было (як няма яе і цяпер!). І чакаць, што нехта прынясе такі твор, было нельга. З'явілася думка зрабіць інсцэніроўку новага рамана Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына», які быў надрукаваны ў часопісе «Узвышша». І помніцца мне, што гэта «падказаў» нам наш акцёр і драматург Яўген Рамановіч.

Надзвычайны драматызм падзей на шырокім гістарычным фоне, своеасаблівы і хвалюючы лёс Леапольда Гушкі і яго сям'і, псіхалагічная і філасофская глыбіня характараў, цікавыя і разнастайныя людзі, цудоўная мова, жыццёвая зямная праўда, сацыяльны і нацыянальны каларыт рамана, яго рэвалюцыйная сутнасць — усё гэта пасяляла ў нас упэўненасць, што раман можа добра прагучаць і на драматычнай сцэне і ўсе акцёры тэатра будуць з натхненнем працаваць над сцэнічным увасабленнем герояў. Вельмі важна было і тое, што таленавіты рэжысёр тэатра Леў Літвінаў захапіўся гэтай ідэяй і з уласцівым яму запалам і энергіяй пачаў неадкладна дзейнічаць. Першае і галоўнае, што трэба было зрабіць — гэта ўгаварыць К. Чорнага ўзяцца за новую для яго справу, праўдзівей кажучы, запаліць у душы мастака-празаіка драматургічны агеньчык. І гэта было зроблена. Тэатр дастукаўся да чулага і добрага сэрца пісьменніка. Чорны сказаў, што разумее нашы жаданні і што яго самога вабіць магчымасць убачыць герояў рамана ў сцэнічным увасабленні. Абяцаў падумаць, як яму падступіцца да гэтай справы.

Аднойчы ён прыйшоў у тэатр са сваім нязменным кіёчкам у руцэ і ўсміхаючыся светлай і такой прыемнай усмешкай, ціха і сціпла сказаў, што п'есу будзе рабіць. Многа гаварылі аб тым, якім будзе спектакль. Прыйшлі да згоды, што твор павінен быць героіка-гістарычнай эпапеяй, рамантычна-ўзнёслым, што галоўны акцэнт прыпадзе на раскрыццё чалавечых характараў, на сацыяльна-філасофскую сутнасць тэмы — зямля і Радзіма. Праз лёс Леапольда Гушкі і яго сям'і тэатр пакажа канкрэтную жыццёвасць гістарычных падзей. Каб паспець паставіць спектакль, нам трэба было атрымаць тэкст п'есы не пазней лета 1932 года.

УВЕСЬ складаны працэс сумеснай працы аўтара з рэжысёрам паказаў, што справа ідзе не аб простай інсцэніроўцы, а пра напісанне паводле галоўных матываў рамана самастойнага драматургічнага твора з усімі ўласцівымі яму сцэнічнымі якасцямі.

Пачаліся цяжкасці. Няўрымслівая фантазія рэжысёра, яго жаданне як мага шырэй і паўней паказаць падзеі і людзей, нараджэнне новых думак, часам празмерная ў Л. Літвінава схільнасць да эфектных тэатральна-вонкавых прыёмаў і захапленне імі, бывала, і адводзіла ў бок ад першапачатковай і асноўнай задумы будучай п'есы. Гэта прымушала аўтара рабіць розныя варыянты сцэн, перапісваць дыялогі, уводзіць новыя эпізадычныя асобы ў масавыя карціны, прадугледжаныя пастановачным планам спектакля, ствараць інтэрмедыі паміж карцінамі... Потым многае з гэтага адмянялася і пісалася нешта новае. Даволі-такі пакутлівы працэс! Кузьма Чорны працаваў цярпліва, са шчырым жаданнем ісці насустрач творчым пошукам рэжысёра, амаль цалкам давяраючы яму. І ўсё больш паглыбляўся, як ён казаў, «у тэатральную кухню».

Аднак усё ж адчувалася, што ён прымае не ўсё з таго, што задумаў рэжысёр, але сціпласць і далікатнасць, відаць, не дазвалялі яму адкрыта выказваць свае сумненні. Праца была напружанай. І аднойчы ён не вытрымаў і сказаў:

— Для мяне, браткі, гэта ўжо не героіка-гістарычная эпапея, а нейкая «апупея»...

Сказаў гэта не зласліва, а з добразычлівай лагоднай усмешкай у вачах. Мо нягледзячы на пакутлівыя цяжкасці, яму падабаўся рэжысёрскі творчы запал, захапляла вера акцёраў у будучы спектакль.

Нарэшце быў створаны чарнавы, рабочы варыянт п'есы. Пачаліся застольныя рэпетыцыі. Акцёры працавалі самааддана, з вялікім уздымам і з пачуццём творчай адказнасці. Ніхто не лічыўся з часам, ніхто не глядзеў на гадзіннікі (такой моды наогул тады не было ў тэатры). У кожным з нас жыло адзінае жаданне, адзінае імкненне дасягнуць мэты, якую паставіў сабе тэатр. Усе адчувалі, што можа атрымацца цікавы спектакль, якому суджана стаць значнай падзеяй у нашым творчым жыцці. Усіх захапіў рэвалюцыйны, інтэрнацыянальны пафас падзей, маляўнічыя вобразы, народнасць і жыццёвая праўда твора. Але і ў часе работы за сталом і потым, калі перайшлі на сцэну, перапіска і пераробка асобных карцін п'есы працягваліся. Гэта трошкі стамляла. Скажу наперад, што нават пасля прэм'еры, якая прайшла з вялікім поспехам, праца над п'есай і спектаклем не спынілася — рабіліся скарачэнні некаторых карцін і розныя варыянты фінала.

У сваім артыкуле «Пра сваю п'есу», які з'явіўся неўзабаве пасля прэм'еры, К. Чорны пісаў: «П'еса «Бацькаўшчына», як драматургічнае цэлае, яшчэ не ёсць зусім закончаны твор. Той акт, які цяпер ідзе на сцэне, як трэці акт, павінен быць пададзены так, як першыя два акты: каб падзеі ў ім прайшлі праз індывідуальнае праламленне галоўных персанажаў твора».

Не лішнім будзе сказаць тут, што К. Чорны на працягу яшчэ многіх гадоў вяртаўся да сваёй п'есы «Бацькаўшчына», удасканальваў яе, аб чым сведчыць канчатковы варыянт, які ўвайшоў у зборнік яго твораў. Мне вельмі падабаецца новы цікавы персанаж, якога не было тады ў нашым спектаклі, — гэта Барадаты салдат у сцэне акопа, якому аўтар даў цудоўны маналог пра старога, худога, хворага каня, маналог, поўны драматызму, душэўнага болю, жыццёвай мудрасці і вялікай нянавісці да тых, хто гоніць народ на крывавую бойню. Гэты таленавіта напісаны маналог — знаходка для акцёра.

(Заканчэнне на 12-й стар.).

# У ДРАМАТУРГІЧНЫМ «ПЕКЛЕ»...

(Заканчэнне. Пачатак на 11 стар.)

Раскажу і пра адзін смешны выпадак. Мы рэпеціравалі, як кажуць, на поўную нагу, тыя карціны, якія ўжо не патрабавалі ніякіх перастановак. Адной з іх была карціна ў хаце Леапольда Гушкі, куды прыходзіць хавацца ад паліцыі Евель Цывін і куды нечакана вяртаецца з фронту Павел Няміра.

І вось у размове Леапольда са сваёй жонкай, якая ўпікае яго за некаторыя яго ўчынкі, яна гаворыць: «Каб ты быў разумнейшы, дык не трэба было табе нікога **пахлявацкаваць**»!

Такога слова мы ніколі не чулі і пачалі дакопвацца да яго сэнсу. Капаліся, капаліся, але так і не дакапаліся, што яно можа азначаць. Гэта была першая чытка па ролях. Спытаць у К. Чорнага, што гэта за слова такое мы не маглі, таму што аўтар, стомлены працай над п'есай, паехаў кудысьці адпачываць. Аднойчы мы спыталі ў аднаго выкладчыка мовы ці не ведае ён, што гэта за слова такое — **пахлявацкаваць!** Выкладчык падняў вочы ў неба, задумаўся, а потым сказаў, што ў беларускай мове ёсць такое слова,—ён чуў яго недзе на Магілёўшчыне — яно належыць да мясцовага дыялекту і азначае прыблізна тое, што ў рускай мове «поощрять». Ну што ж, добра. Але Лідзія Ржэцкая, якая рэпеціравала жонку Леапольда Гушкі, сказала, што яна не разумее пры чым тут у размове з мужам нейкае «поощрение»!

Ішлі дні. Нарэшце прыехаў К. Чорны, прыйшоў у тэатр і мы папрасілі яго растлумачыць, што азначае гэтае дзіўнае слова. Ён сказаў, што ўпершыню чуе такое слова!

Дазвольце, сказалі мы, як гэта ўпершыню — яно ж з вашай п'есы! Паглядзіце — у сцэне Леапольда з жонкай!

Ён паглядзеў і... так зарагатаў, аж слёзы паказаліся на вачах. Мы глядзім на яго і нічога не разумеем. Смеючыся, ён сказаў: «Гэта машыністка наблытала! У мяне напісана—па хлявах хаваць» — гэта ў адносінах да таго, што Леапольд хавае ў хляве Евеля Цывіна.

Тут ужо ўсе мы разам пачалі смяяцца, і не так з машыністкі, як з «вялікага» знаўца мясцовых дыялектаў.

Тэатр паказваў «Бацькаўшчыну» ва ўсіх гарадах нашай рэспублікі. Віталі яе і ўдзячныя гледачы Кіева, Харкава, Адэсы, куды мы прыязджалі на гастролі. Усюды яна карысталася вялікім поспехам, у тым ліку і ў Маскве, дзе першы БДТ даваў спектаклі летам 1933 года.

Кузьма Чорны быў вельмі задаволены тым шырокім водгукам, які меў спектакль і ў прэсе. Бліскуча выконвалі свае ролі акцёры нашага тэатра. Незабыўны вобраз Леапольда Гушкі таленавіта стварыў Уладзімір Уладамірскі. Прайшло ўжо шмат гадоў, але і зараз паўстае перад маімі вачыма першае з'яўленне на кірмашы Леапольда — Уладамірскага, куды ён прыйшоў са сваімі клункамі прадаваць апошнюю кашулю, каб купіць сабе кавалак зямлі.

Павал Няміра ў выкананні Глеба Глебава, Евель Цывін — Міхала Зорава, жонка Леапольда — Лідзія Ржэцкая, Марыя—Ірына Ждановіч, пан Мазавецкі — Генрых Грыгоніс... Усё гэта каштоўнейшы скарб акцёрскага рэалістычнага мастацтва. Вобразы былі насычаны магутнай сілай творчага гарэння, жыццёвай праўдай, увасобленай у непаўторных рысах індывідуальнасці кожнага акцёра. Вялікі чалавеказнаўца К. Чорны натхняў акцёраў на стварэнне гэтых вобразаў. Ён з замілаваннем гаварыў аб выканаўчым майстэрстве.

Хоць і цяжкавата было К. Чорнаму ў драматургічным «пекле»—ён глыбока палюбіў прывабны і чароўны свет тэатральнага мастацтва, палюбіў складаную, загадкавую і такую неспакойную творчасць акцёра і рэжысёра.

Маналог Паўла Няміры — цяжкае месца ў ролі. Помню, на адной з рэпетыцый К. Чорны тлумачыў Г. Глебаву, што ў гэтым маналозе ўся філасофія Паўла Няміры і трэба перадаць не толькі амаль жывёльную радасць Паўла з прычыны таго, што ён уцалеў, што яму пашанцавала і няма яму больш фронту, акопаў, вайны і няма яму ніякай справы да тых, хто яшчэ гібее і пакутуе ў акопах, а галоўным чынам выразна падкрэсліць яго прагнасць да сваёй паўвалокі зямлі. Яна ж так неспадзявана трапіла яму ў рукі! Варта падкрэсліць яго смагу да працы на зямлі, якую ён па-мужыцку шануе і любіць, зямлю, якая «пахла мокрая ад дажджу». Маналог напісаны кароткімі, рытмічна-напружанымі фразамі, якія перадаюць узрушаны душэўны стан Паўла. Акцёр з вялікім майстэрствам карыстаўся гэтым і яго выкананне маналогу пакідала незабыўнае ўражанне.

**Х**ОЧАЦЦА расказаць яшчэ пра адну смешную гісторыю. Гэта было ў Маскве ў ліпені 1933 года, у часе нашых гастроляў. Да нашага прыезду ўжо былі расклеены афішы. Гэта зусім звычайна.

Але, калі мы глянулі на гэтыя афішы, дык спачатку вачам сваім не паверылі, а потым і не ведалі—ці абурацца нам, ці смяяцца! На вялікіх афішах, сакавітай фарбай на рускай мове было напісана: «Батько Вщина»—историческая драма в 3-х действиях».

Потым выявілася, што маскоўскі адміністратар, які запраўляў нашымі гастролямі і ўсёй рэкламай, атрымаўшы па тэлефоне з Мінска наш рэпертуар, палічыў, што «бацькаўшчына», складаецца з двух слоў і спектакль гэты пра нейкага бацьку-атамана па прозвішчы «Вщина»! Дарэчы, у той час быў фільм «Банда бацькі Кныша» — і вось гэты «дасціпны» тэатральны дзеяч падумаў, што і наш спектакль з такіх... Зразумела, усю гэтую рэкламу знялі і расклеілі новую. Але, калі мы прывезлі тую недарэчную афішу дамоў і паказалі яе К. Чорнаму, ён смяяўся гадзіны са дзве і ў мяне няма такіх слоў, каб апісаць гэты смех.

**В**ЕРАСЕНЬ 1939 года. Незабыўныя, радасныя, гістарычныя дні ўз'яднання беларускага народа ў адзіную савецкую сям'ю. Мы былі прыемна здзіўлены і ўзрадаваны, калі К. Чорны сказаў нам, што ён думае над новай п'есай, што яна ўжо спее ў яго душы, што падзеі і людзі яе набывалі ўжо жывыя і канкрэтныя рысы. І запэўніў нас, што праз некаторы, зусім кароткі час, напіша яе.

Пад уплывам хвалюючых падзей уз'яднання ён напісаў «Ірынку». У 1940 годзе тэатр паставіў гэтую п'есу. Яна карысталася поспехам, дзякуючы захапляючаму зместу, свежасці і навізне тэмы, а галоўнае, багаццю і характарыстыцы характараў дзеючых асоб, псіхалагічнай пранікнёнасці ў лёс кожнага з персанажаў. Такія ролі, як Ірынкі, бацькі яе Мікалая Міхалковіча, асадніка Лямента, наймічкі Юзэфы, пана Чарноцкага, Зыгмуся і іншыя, далі магчымасць нашым акцёрам стварыць глыбокія і цікавыя сцэнічныя вобразы.

Не магу ўтрымацца, каб не сказаць, што наш Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы павінен вярнуць на сваю сцэну і «Бацькаўшчыну» і «Ірынку». Я глыбока ўпэўнены, што гэтыя п'есы з'яўляюцца класічнымі творамі ў беларускай савецкай драматургіі і яны маюць усе правы на сцэнічнае жыццё.

У сувязі з гэтым прыгадаю некаторыя думкі К. Чорнага з яго артыкула «Заўвагі пра драматургію». Ён піша: «У нашай драматургічнай практыцы шмат ёсць такіх з'яў: ідзе на сцэне п'еса і лічыцца яна за самую актуальную сваёй тэмаю, сваімі ідэямі, але вось праходзіць самы малы час, і гэтая п'еса робіцца неактуальнай, проста-такі часта нецікавай. Справа, бачыце, такая, што «гэтыя п'есы ўстарэлі», што «прайшоў ужо той этап, які яны тэматычна тлумачылі». Этап прайшоў, гэта праўда. Але хіба той этап загінуў без следу? Хіба ён не вырашыў вялікіх пытанняў, ад якіх залежаць наступныя этапы? Хіба ён не застаўся, як гістарычная з'ява? Ён-то застаўся, але творы, якія **нібыта** ўвасаблялі яго, не засталіся. Чаму? Таму што ў іх не было **філасофіі** гэтага этапу».

Залатыя словы!

А я лічу, што і «Бацькаўшчына», і «Ірынка» якраз маюць філасофію сваіх этапаў.

**Л**ІСТАПАД 1944 года. Яшчэ грымяць апошнія грымоты вайны. Але цяжка паранены, амаль зруйнаваны Мінск ужо чатыры месяцы свабодны ад фашысцкай чумы. У цудам уцалеўшым будынку нашага тэатра стаіць труна з памёршым К. Чорным. Тут адбываецца грамадзянская паніхіда. Адсюль мы праводзім яго ў апошні шлях. Усяго сорак чатыры гады пражыў вялікі патрыёт сваёй бацькаўшчыны, добры і сціплы чалавек, таленавіты пясняр жыцця народа беларускага.



# ШУКАЮЧЫ АДЗІНА ПАТРЭБНАЕ СЛОВА

**КУЗЬМА Чорны і выяўленчае мастацтва... Узаемаадносіны слова і фарбаў жыцця ў яго маляўнічай, сакавітай, рэльефнай прозе — вельмі складаны і непаўторны свет. Адны старонкі яго твораў нагадваюць строгую рэльефнасць старадаўняга мастацтва беларускага разьбярства, другія — маляўнічую палітру жывапісца, а іншыя—лаканічныя па вобразным ладзе эстампы... Але, мабыць, і ў такога майстра слова, якім быў Кузьма Чорны, надараюцца ў жыцці моманты, калі слова бяссільнае, калі на дапамогу прыходзяць вобразы ўласна выяўленчага плана. Яны памагаюць пісьменніку засяродзіцца ўнутрана на пачуццях, якія валодаюць душой, спрыяюць пошукам адзіна патрэбнага слова, адзіна патрэбнага ладу душы, неабходнага, каб выкрасалася таямнічая іскра, што надае творчасці жыццёвасць...**

**Мабыць так і з'явіліся гэтыя малюнкі Кузьмы Чорнага.**

**Жонка пісьменніка, Рэвека Ізраілеўна, сведчыць, што ён любіў маляваць. Здаралася, яшчэ задоўга да Вялікай Айчыннай вайны, сярод ягоных рукапісаў сустракаліся тыя ці іншыя замалёўкі, зробленыя ў часе роздуму. Але яны загінулі. А вось гэтыя тры захаваліся з тых часоў, калі Кузьма Чорны быў у эвакуацыі і жыў у Маскве. Ён вельмі сумаваў па радзіме. Быў хворы. Дактары забаранялі яму шмат пісаць. І ўсё ж Кузьма Чорны напружана працаваў. З-пад яго пяра выходзілі палымяныя публіцыстычныя артыкулы, натхнёныя старонкі «Пошукаў будучыні», апавяданні... І вось гэтыя малюнкі з'явіліся тады ж, калі ўсе думкі пісьменніка кіраваліся на радзіму, у прадчуванні хуткай сустрэчы з роднай зямлёй. Памяць нагадвала немудрагелістыя матывы беларускай прыроды, а рука з пяром занатоўвала народжанае памяццю і ўяўленнем...**

**Чытач, нам здаецца, здолее ацаніць, наколькі блізкія гэтыя малюнкі некаторым асаблівасцям стылістыкі Чорнага — мастака слова. Ён убачыць у гэтых малюнках своеасаблівую метафарычнасць, блізкую тым магутным метафарам, якія тварыў Чорны словам. І, што немалаважна, чытач яшчэ раз убачыць, наколькі рознабаковая творчая натура была ў гэтага чалавека.**



# «УСЁ АДТУЛЬ, САПРАЎДНАЕ...»

Цімкавічы... З маленства блізкая і звыклая назва. Нават калі ты ні разу і не быў у гэтым мястэчку, то ўсё роўна тут табе шмат знаёмага, бо напэўна ж няма ў нас чалавека, які б не чытаў твораў Кузьмы Чорнага. А ў іх, у гэтых творах у пераважнай большасці «ўсё адтуль, сапраўднае», з Цімкавіч.

І ўсё ж хочацца самому пахадзіць па тых сцежках, па якіх хадзіў твой любімы пісьменнік, паглядзець на тыя мясціны, што так падрабязна і з замілаваннем апісаны ў яго раманах, аповесцях, апавяданнях.

І вось я ў Цімкавічах.

...Ногі самі скіраваліся на алейку, абсаджаную кветкамі,—яна вяла да белага дома — музея Кузьмы Чорнага. Ужо здалёк бачу ля музея незвычайнае ажыўленне. Ад'язджалі грузавікі, завіхаліся з рыдлёўкамі вучні.






# ДЛЯ НАС ГЭТА БЫЛО СВЯТА

*НОВАЕ ВЫДАННЕ СПАДЧЫНЫ ВЫДАТНАГА МАСТАКА*

Творчасць Кузьмы Чорнага з кожным годам прыцягвае ўсё большую і большую ўвагу даследчыкаў. Аб ім пішуцца манаграфіі і дысертацыі, успаміны людзей, якія блізка ведалі пісьменніка. І з усіх гэтых прац паўстае вобраз Чалавека вялікага сэрца, чулай і ўражлівай душы, надзвычай таленавітага і сціплага, чалавека з чыстым сумленнем...

Аднак шырокае даследаванне творчасці Чорнага стрымліваецца адсутнасцю навуковага выдання збору яго твораў, у якім бы з найбольшай паўнатой была прадстаўлена спадчына празаіка.

Каб ліквідаваць гэты прабел, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР на працягу апошніх год падрыхтаваў да друку Збор твораў Кузьмы Чорнага ў васьмі тамах. Гэта першае навуковае выданне твораў выдатнага мастака слова.

У параўнанні з пасмяротным Зборам твораў у шасці тамах (1954—1955) новы Збор твораў з'явіцца найбольш поўным і дакладным у тэксталагічных адносінах. Некаторыя творы ўключаны ў Збор твораў упершыню — раманы «Сястра», «Млечны шлях», няскончаныя раманы «Заваёва свету», «Вецер і пыл» і інш. У выніку аналітычнай зверкі тэкстаў з першакрыніцамі, усімі прыжыццёвымі выданнямі і рукапісамі з'явілася магчымасць выправіць недакладнасці і скажэнні чорнаўскага тэксту, допушчаныя ў папярэднім выданні.

Вядома, што крыніцай асноўнага тэксту з'яўляюцца апошнія прыжыццёвыя выданні пісьменніка. Калі ж твор не ўваходзіў ні ў адно з выданняў, ён даецца па першадруку або па рукапісу. Куды цяжэй выбраць крыніцу асноўнага тэксту для твора, які не мае ні друкаванай першакрыніцы, ні прыжыццёвага выдання, ні, тым больш, рукапісу або машынапісу з праўкамі аўтара.

Такая праблема паўстала перад тэкстолагамі і ў працэсе работы над некаторымі творамі Кузьмы Чорнага, у прыватнасці, над п'есай «Ірынка». У біяграфіі К. Чорнага адзначана, што «Ірынка» была ўпершыню апублікавана ў 1941 годзе ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», № 4. Аднак гэтага нумара часопіса не знайшлося ні ў бібліятэках Мінска, ні Ленінграда, ні Масквы. Відаць, Кніжная палата апублікавала звестку аб першадруку «Ірынкі», а вайна перашкодзіла выхаду часопіса ў свет.

Прыйшлося звярнуцца за дапамогай да Р. І. Свераноўскай, жонкі пісьменніка, якой мы вельмі ўдзячны за шчыры і актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Збору твораў К. Чорнага. У яе захоўваецца машынапісны тэкст п'есы, з якога рабіў пераклад на рускую мову Іларыён Барашка. Машынапіс мае паметку перакладчыка: «З архіву Іл. Барашкі. У 1941 г. перакладаў «Ірынку» я на рускую мову, жывучы ў Маскве. Кузьма Чорны пераслаў рукапіс у Маскву, дзякуючы чаму ён і захаваўся. З любоўю і пашанай да аўтара «Ірынкі» перадаю рукапіс сям'і пісьменніка».

На жаль, гэта не рукапіс, а машынапіс, на 66 старонках, без правак аўтара і нават не выпраўлены пасля машынкі. Асобныя месцы тэксту не перадрукаваны: не адбіліся на паперы. Пасля знаёмства з гэтым тэкстам узнікла неабходнасць напісаць перакладчыку пісьмо з пытаннем, ці не захаваўся ў яго сапраўдны рукапіс «Ірынкі»? І мы атрымалі адказ, у якім Іл. Барашка пісаў: «...На жаль, «Ірынку» ў сваім архіве я не знайшоў. У 1941 годзе ў выдавецтве «Искусство» была выдадзена «Ірынка» на рускай мове, у маім перакладзе, які быў аўтарызаваны Кузьмою Чорным. Думаю, што гэтую кніжку можна знайсці ў бібліятэках Масквы (б-ка Леніна, Тэатральная бібліятэка), і па ёй зрабіць праўку тэксту, які захаваўся ў родных пісьменніка».

Адзін з апошніх экземпляраў «Ірынкі» захоўваецца ў Свераноўскай. На тытульным лісце яго напісана рукою самога аўтара: «Ірусьцы, мілай маёй дачушцы — Ірынцы. Кузьма Чорны. 21 сакавіка 1943 г. г. Масква».

25 мая 1941 г. «Ірынка» была пастаўлена ў БДТ-1 (г. Мінск). Рэжысёр М. Зораў, мастак І. Ушакоў. П'еса ставілася пад назвай «У апошнюю ноч».

Маючы гэтыя звесткі, мы звярнуліся ў Тэатральны архіў тэатра імя Янкі Купалы і там пазнаёміліся з машынапісным тэкстам п'есы, які мае загаловак «Ірынка» (а не «У апошнюю ноч»!) і ўяўляе сабой 101 старонку машынапісу, без правак аўтара, з памылкамі, не выпраўленымі пасля машынкі, і шматлікімі рэжысёрскімі праўкамі зместу і сэнсу п'есы.

У працэсе працы па супастаўленні паміж сабой двух машынапісных тэкстаў п'есы выявілася, што яны істотна адрозніваюцца адзін ад другога зместам, характарам і паводзінамі дзеючых асоб. Так, напрыклад, у машынапісным тэксце, які захоўваецца ў Тэатральным архіве, дзеі разбіты на карціны. І другая карціна другой дзеі, як і апошняя карціна чацвёртай дзеі, — зусім новыя, хоць у іх дзейнічаюць тыя ж героі.

Нават беглае супастаўленне пераклада «Ірынкі» з машынапісным тэкстам, які захоўваецца ў Свераноўскай прыводзіць да вываду, што пераклад амаль дакладны, супадае з арыгіналам. А паколькі пераклад аўтарызаваны, то, на нашу думку, машынапісны тэкст, з якога зроблены гэты пераклад, і павінен быць «крыніцай асноўнага тэксту «Ірынкі».

Той жа машынапісны тэкст, які захоўваецца ў тэатральным архіве, неабходна даць як асобную рэдакцыю п'есы.

Праца над творамі пісьменніка прынесла многа «творчай радасці» складальнікам тамоў новага Збору твораў. Для ўсіх нас гэта было сапраўднае свята.

**Антаніна ХАРКЕВІЧ.**

# ВОДГУК УДЗЯЧНЫХ СЭРЦАЎ

*Юбілей пісьменніка такога маштабу, як Кузьма Чорны, заўсёды выклікае хвалю грамадскай цікавасці да жыцця і творчасці аўтара неўміручых кніг. У гэтыя дні ў бібліятэках рэзка ўзняўся попыт на выданні твораў выдатнага раманіста і навеліста. Наладжваюцца літаратурныя вечары, на якіх з успамінамі пра калегу па пяру і мудрага настаўніка выступаюць літаратары, чытаюцца лекцыі па праблемах яго творчасці. На стэндах бібліятэк — багаты іканаграфічны матэрыял, здымкі і кадры з дакументальных фільмаў, сцэны са спектакляў, пастаўленых па п'есах «Бацькаўшчына» і «Ірынка».*

*Слова Кузьмы Чорнага гучыць па радыё — тут зроблены інсцэніроўкі драматычных старонак яго прозы. У праграмы літаратурных перадач уключаны гутаркі вядомых даследчыкаў творчасці пісьменніка.*

*Бюро прапаганды беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў рэспублікі выпраўляе ў вялікія маршруты групы пісьменнікаў, і ў камандзіроўках наказ — правесці вечары, прысвечаныя памяці, жыццю і творчасці Кузьмы Чорнага.*

*Вялікая мастацкая панарама барацьбы беларускага народа за шчасце, абпаленыя рэвалюцыяй і войнамі старонкі яго кніг у ліпені 1970-га зноў хвалююць тысячы і тысячы чалавечых сэрцаў. Удзячных сэрцаў чытачоў.*

— От, расшырацца надумалі, — сказала дырэктар школы Зінаіда Іосіфаўна Раманенка пасля таго, як мы павіталіся. — Цеснавата нам стала. Вы якраз будзеце сведкай закладкі фундаменту.

І ўжо ў музеі яна працягвала:

— Ведаеце, я часта думаю, як хораша, што такі музей ёсць, існуе. Паслухайце, якая тут урачыстая цішыня. Тут так добра думаецца пра мінулае і сённяшняе. Я ж ведала Мікалая Карлавіча. Вучылася якраз тады, калі ён настаўнічаў у нашай школе. Бегала не адзін раз пад іх двор, на Капыльскую, калі ён ужо вядомым пісьменнікам быў і прыязджаў з Мінска.

Да нашага музея мы так прывыклі, што часам здаецца, быццам гэты дамок спрадвеку стаяў у мястэчку, што ў ім жыў пісьменнік, хадзіў па гэтых пакоях.

Тут, у Цімкавічах, сапраўды ўсё жыве Кузьмом Чорным.

Капыльская вуліца ціхая, выклікае на роздум. Пад хатамі бацькоўскія бярозы, клёны. Уздоўж платоў усё лавачкі, лавачкі... На адной з іх сядзіць сталага веку дзядзька. Падыходжу да яго, вітаюся:

— Ці не памятаеце, выбачайце, Мікалая Раманоўскага?

Я сумысна назваў юнацкае прозвішча Кузьмы Чорнага. Мне захацелася праверыць, ці памятаюць тут Мікалая Карлавіча пад бацькавым прозвішчам.

— Як вы кажаце? — перапытаў дзядзька.

— Мікалая Раманоўскага — Кузьму Чорнага, — удакладняю.

— А-а, — ажывіўся дзядзька. — Кузьму Чорнага? Ды хто ў нас яго не ведае... Хату пытаеце? Хаты няма. А на месца тое можна паглядзець. Ідзіце ў канец вуліцы, там вам кожны скажа, дзе жыў Чорны.

У самым канцы нечакана вынырнула студня, звычайная студня з жураўлём, якіх ужо не знойдзеш не тое што ў Цімкавічах, але і ў самых маленькіх вёсачках на Капыльшчыне.

— Як жа яна ўратавалася? — запытаўся я ў Чараховіча Аляксандра Канстанцінавіча, які, заўважыўшы з двара незнаёмага чалавека, што пільна да ўсяго прыглядаўся, выйшаў на вуліцу.

— А от ужо хацелі былі журавель зняць, ды мы з зяцем адгаварылі. Хай стаіць. Ён шмат чаго кожнаму нагадвае. А нам пра нашу маладосць. Бывала, ля хаты Раманоўскіх — яна якраз амаль насупраць гэтай студні стаяла — столькі дзяўчат пад клёнамі збіралася. Цэлы вечар песні звінелі. Мікалай таксама спяваў. Любіў ён яшчэ нам на балалайцы іграць... Каб мог Кузьма паглядзець на сённяшняе жыццё, ото б парадаваўся. Дык гэта студня хай стаіць, — неяк нечакана закончыў ён сваё апавяданне.

Хай сапраўды стаіць, — падумаў я. — Хай нагадвае ўсім пра маладосць Чорнага.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# ПОШУКІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

*18—19 чэрвеня ў Беларускім філіяле Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі (ВНІІТЭ) у Мінску адбылася навуковая канферэнцыя па праблемах далейшага развіцця тэхнічнай эстэтыкі. У яе рабоце ўдзельнічалі вучоныя, работнікі праектных арганізацый, спецыялісты па навуковай арганізацыі працы, кіраўнікі груп і аддзелаў тэхнічнай эстэтыкі на вытворчасці, мастакі-канструктары Беларусі і некаторых братніх рэспублік краіны.*

*Уражаннямі ад гэтага форуму дзеліцца начальнік бюро тэхнічнай эстэтыкі Мінскага гадзіннікавага завода А. Морсаў.*

Упершыню ў Беларусі з такім шырокім прадстаўніцтвам тэарэтыкаў і практыкаў абмяркоўваюцца праблемы тэхнічнай эстэтыкі.

Сімвалічна, што канферэнцыя праходзіла ў новым будынку філіяла ВНІІТЭ, нядаўна пабудаванага ў сталіцы рэспублікі. Тут цудоўныя майстэрні, студыі, лабараторыі, абсталяваныя навейшымі сродкамі для творчай работы, вялікай магутнасці эксперыментальна-вытворчыя майстэрні.

Адчуваецца, што тут працуюць мастакі са строгім густам і высокай патрабавальнасцю. Пра гэта красамоўна сведчаць і агітацыйныя і інфармацыйныя стэнды ў калідорах і фае будынка, і ўтульная канферэнц-зала, і выдатная выстаўка інфармацыйна-тэхнічнай літаратуры, дастасаваная да дзён працы канферэнцыі.

Мэты і задачы праведзенай канферэнцыі былі акрэслены ва ўступным слове старшыні яе аргкамітэта — в. а. дырэктара Беларускага філіяла ВНІІТЭ А. Мельнікава: паспрыяць шырокаму абмену вопытам работы, асэнсаваць зробленае, вызначыць новыя шляхі развіцця тэхнічнай эстэтыкі.

**Адразу адзначу, што ўся канферэнцыя прайшла ў дзелавой атмасферы. Цікава гаварылі яе ўдзельнікі пра набыты вопыт. Востра крытыкавалі ўсё, што замінае далейшаму развіццю тэхнічнай эстэтыкі. Уносілі канструктыўныя прапановы.**

У цэнтры ўвагі шэрагу прамоўцаў апынуліся праблемы пераўтварэння на навуковай аснове вытворчага асяроддзя. Пра ролю і задачы тэхнічнай эстэтыкі ў гэтай галіне жыцця гаварыў галоўны мастак Беларускага філіяла ВНІІТЭ Б. Грубін. Ён красамоўна даказаў, колькі шкоды прыносіць неразуменне і недаацэнка ролі тэхнічнай эстэтыкі.

Я паўтару тут прыведзены Б. Грубіным прыклад. Так, пабудаваны нядаўна гіганцкі камбінат сінтэтычнага валакна ў Магілёве, начыста пазбаўлены элементаў эстэтызацыі вытворчага асяроддзя, распрацаваных філіялам ВНІІТЭ ў Мінску. Чаму? Таму, што будаўнічыя арганізацыі імкнуцца да «эканоміі» — да «таннага» будаўніцтва. Але яны забываюць, колькі каштуе падобная «эканомія». Тут здольны памагчы няхітры разлік. Ад таго, што эстэтычны ўзровень вытворчага асяроддзя заніжаны нізкаякаснымі аддзелачнымі матэрыяламі, ужытымі ў будаўніцтве «па інерцыі», прадукцыйнасць працы зніжаецца на 5—6 працэнтаў. Дробязь? А перамножце гэтыя працэнты на бліжэйшыя гады эксплуатацыі камбіната!.. Такім чынам, выйграем на цудоўным абсталяванні, якім аснашчаны камбінат, і трацім на ўяўнай эканоміі і безадказных адносінах будаўнікоў-аддзелачнікаў. Пагарджаць патрабаваннямі тэхнічнай эстэтыкі нельга. Бо меры па ліквідацыі недахопаў, падобных да адзначаных (а прымаць такія меры прымушае жыццё!), абыйдуцца ў тры разы даражэй, чым своечасовы ўлік навуковых патрабаванняў да вытворчага асяроддзя.

Я разумею заклапочанасць Б. Грубіна, які востра крытыкаваў адносіны некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў да патрабаванняў тэхнічнай эстэтыкі. Па віне падобных кіраўнікоў атрымліваецца, што мы не толькі нічога не выйграем ад прымянення тэхнічнай эстэтыкі, але і без усялякай карысці для прадпрыемства выдаткоўваем сродкі на праекты. Так, Беларускі філіял ВНІІТЭ выконвае праекты рэканструкцыі і пераўтварэння некаторых прадпрыемстваў. Гэтыя праекты каштуюць, скажам шчыра, не такіх ужо і малых грошай. А што робіцца на прадпрыемствах? Там іх кладуць пад сукно. Самім фактам заказу праекта прадпрыемства быццам бы сцвярджае: і мы, маўляў, не адстаем ад патрабавачняў часу. А кладучы праекты пад сукно, яно наносіць само сабе значную шкоду. Так, напрыклад, зроблена на камвольным камбінаце, праекты рэканструкцыі якога ствараліся паўтара года. Так зрабілі і кіраўнікі інстытута тарфяной прамысловасці.

Вельмі было б карысна, каб прыслухаліся да выступлення Б. Грубіна кіраўнікі гэтых і падобных да іх прадпрыемстваў, удумаліся ў тыя прыклады, якія ён прыводзіў з айчыннага і замежнага вопыту, каб паказаць ролю і задачы тэхнічнай эстэтыкі ў пераўтварэнні вытворчага асяроддзя, у яго ачалавечанні.

Гаворку пра вытворчае асяроддзе працягнуў кандыдат мастацтвазнаўства А. Усцінаў (Масква). Ён гаварыў аб павышэнні эстэтычнага ўзроўню рабочых зон на прамысловых прадпрыемствах, аб праблеме навуковага падыходу да іх фарміравання і арганізацыі. Структура камунікацый, пошукі аптымальных яе варыянтаў, свабоднае развіццё ў прасторы ўзаемадзеяння асобных рабочых зон, пачынаючы ад адзіночнага рабочага месца і канчаючы цэхам, — усё гэта прадмет роздуму для ўсіх, хто заняты тэхнічнай эстэтыкай у нашай рэспубліцы. А. Усцінаў аргументавана паказаў неадпаведнасць архітэктуры сучасных прамысловых прадпрыемстваў патрабаванням мэтазгоднасці арганізацыі рабочых зон. Свае думкі прамоўца ілюстраваў пераканаўчымі схемамі і дыяграмамі.

Як тэхнічная эстэтыка можа уплываць на вытворчасць, паказаў у сваім дакладзе кандыдат архітэктуры В. Вайткус (Вільнюс). Яго даклад называўся «Асноўныя прынцыпы фарміравання вытворчага асяроддзя прамысловых прадпрыемстваў». Аказваецца, нашы літоўскія калегі вынайшлі спосабы абароны ад салярызацыі шляхам правільнага выбару арыентацыі прамысловых будынкаў. На аснове навукова распрацаванай метадалогіі яны стварылі адпаведныя рэкамендацыі. А як арыгінальна абгрунтавалі яны рацыянальную афарбоўку памяшканняў на вытворчасці! У прыватнасці, звярнулі ўвагу на тое, што ў розных мясцовасцях рэспублікі людзі праяўляюць розную схільнасць да розных колераў. Спецыяльнымі даследаваннямі літоўскія вучоныя **вывелі вельмі цікавыя заканамернасці. У Літоўскай ССР вызначыліся чатыры зоны, дзе схільнасці насельніцтва да пэўных колераў рэзка адрозніваюцца і трымаюцца ўстойліва вось ужо два стагоддзі.** Методыка і прынцыпы гэтых даследаванняў у многім заснаваны на аналізе твораў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Цудоўна ілюстраваў свае думкі аб асноўных прынцыпах азелянення прамысловых прадпрыемстваў начальнік лабараторыі філіяла ВНІІТЭ ў Вільнюсе Л. Чыдзерас. Яго каляровыя дыяпазітывы красамоўна паказвалі, што азеляненне прамысловых тэрыторый сапраўды карыснае не толькі з пункту погляду чыста эстэтычнага. Паглынанне пылу, падтрыманне пэўнага ўзроўню мікраклімату, абарона ад сонечнай радыяцыі — так азеляненне павышае прадукцыйнасць працы.

З цікавасцю сустрэлі ўдзельнікі канферэнцыі даклады Ю. Сураўцава (Мінск) пра ролю і месца візуальных камунікацый ў вытворчым асяроддзі і старшага выкладчыка кафедры інтэр'ера і абсталявання Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута В. Валошына пра аддзелачныя матэрыялы ў інтэр'ерах прамысловых прадпрыемстваў. Наш інстытут праводзіць вялікую работу не толькі ў галіне сістэматызацыі і каталагізацыі аддзелачных матэрыялаў, але і займаецца сур'ёзнымі даследаваннямі па стварэнні новых.

Бадай, не было на канферэнцыі прамоўцы, які не закранаў бы ў той або іншай форме прынцыпы работы ў ВНІІТЭ і яго філіялах. Вывад гэтай гаворкі — адзінадушны: патрэбны не прыватныя распрацоўкі асобных цэхаў і прадпрыемстваў, а вывучэнне агульных прынцыпаў і канкрэтныя рэкамендацыі, а таксама стварэнне ўзора-эталона прадпрыемства.

**Карысць ад гэтай канферэнцыі — вялікая. Такія сустрэчы павінны практыкавацца і надалей. Абмен думкамі тэарэтыкаў і практыкаў маладой навукі — неабходны, як паветра. Пажадана, каб больш актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да такіх канферэнцый і ў іх рабоце прымалі і спецыялісты па тэхнічнай эстэтыцы, якія працуюць непасрэдна на прадпрыемствах. Тады абмен вопытам будзе несумненна больш эфектыўны.**

**Я лічу, што на такім жа ўзроўні, як гэтая канферэнцыя, было б карысна сабраць семінар кіраўнікоў груп, аддзелаў тэхнічнай эстэтыкі перадавых прадпрыемстваў з пастаноўкаю спецыяльных дакладаў.** Ды яшчэ не шкодзіла б на такія семінары запрашаць кіраўнікоў прадпрыемстваў, каб яны на канкрэтных прыкладах пераканаліся ў высакароднасці мэт і важнасці задач тэхнічнай эстэтыкі.

Само жыццё падказвае, што неабходны семінары, якія былі б школай навучання як саміх мастакоў-канструктараў, так і кіраўнікоў прадпрыемстваў.

Бадай, кожны з удзельнікаў канферэнцыі вынес цвёрдае перакананне: навукова тэхнічная эстэтыка сёння — адзін з рычагоў далейшага тэхнічнага прагрэсу ў краіне.

**А. МОРСАЎ.**



1 800 кіраўнікоў харавых, танцавальных, драматычных калектываў і аркестраў духавых інструментаў выпусцілі за дзевяць гадоў Рэспубліканскія пастаянныя курсы па падрыхтоўцы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці.

Нядаўна на курсах адбыўся чарговы выпуск. 150 выпускнікоў накіраваны на работу ў калгасы, саўгасы і на прадпрыемствы рэспублікі.

На гэтым здымку — сцэна з пастаўленага слухачамі курсаў спектакля «Над хвалямі Серабранкі» І. Козела. У ролі Язі — Ева Сергіевіч, Шыдлоўскага — Пётр Шумко, Федзі — Мікалай Пытляк.

Фота Ул. КРУКА.

# ГЭТА—УЗОР

Нядаўна ў нашай рэспубліцы (Гервяцкі сельскі Савет, Астравецкі раён) працавала фальклорная экспедыцыя Інстытута літоўскай мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР. Узначальваў яе малады вучоны Велюс Норбертас. Літоўскія фалькларысты працавалі ў мястэчках Гервяты, Гіры і навакольных вёсках — Міцюнах, Гайголях, Мацках, Рундзюнах, Кністушках, Мільцеях, Гелюнах, Гальчунах, дзе побач жыве беларускае і літоўскае насельніцтва (у розных колькасных суадносінах). Сустракаецца тут шмат двухнацыянальных сем'яў. Тутэйшыя літоўцы зберaглі сваю мову, фальклор, але добра засвоілі таксама мову беларускую, здаўна стала для іх роднай беларуская песня, казка, прымаўка. Традыцыйны пачатак гутаркі пра песні: «Ой, колькі гэтых песень я ведала, на валову скуру не спісаў бы!» Многія беларусы таксама разумеюць літоўскую мову, ведаюць літоўскія песні. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты, калі ад аднаго і таго ж інфарманта запісвалі фальклорныя творы і літоўскія збіральнікі, і мы, удзельнікі экспедыцыі Акадэміі навук БССР. Да таго ж усе мясцовыя жыхары размаўляюць з большага папольску, ведаюць польскія песні.

Такія астраўкі двуадзінай культуры з рознымі дадатковымі гістарычнымі напластаваннямі — вельмі цікавыя аб'екты для даследчыкаў міжнацыянальных сувязей, уплываў у галіне фальклору, этнаграфіі і мовы.

Таму ўдзельнікі экспедыцыі Акадэміі навук БССР, якія па праграме падрыхтоўкі 30-томнага выдання беларускага фальклору працавалі ў Ашмянскім і Астравецкім раёнах, адпаведна цікавіліся станам беларускай вусна-паэтычнай творчасці на сумежнай тэрыторыі суседняй рэспублікі — у Свянцянскім раёне.

У жніўні гэтага года ў Гервяцкім сельскім Савеце будзе працаваць другая, яшчэ буйнейшая комплексная экспедыцыя «Таварыства па ахове помнікаў і краязнаўству» (Вільнюскі аддзел). Усе ўдзельнікі—вучоныя, мастакі, кампазітары, настаўнікі, медыкі, юрысты, студэнты будуць працаваць на грамадскіх пачатках, у час свайго летняга адпачынку. Тэматыка даследаванняў надзвычай шырокая: геаграфія, прырода, гісторыя, матэрыяльная і духоўная культура (вопратка, жыллё, ежа, будаўніцтва, ткацтва, рамёствы, земляробства, жывёлагадоўля, сямейныя і каляндарныя абрады, звычаёвае права, народная медыцына, знахарства і да т. п.). Будзе зроблена вялікая колькасць фатаграфій, замалёвак узораў будаўніцтва, прылад працы, народных убораў, тканін.

Шматлікія матэрыялы абедзвюх экспедыцый пасля расшыфроўкі і апрацоўкі паступяць у музеі, архівы, слоўнікі, туды, дзе падобныя матэрыялы захоўваюцца пастаянна. На аснове сабраных матэрыялаў будуць напісаны абагульняючыя артыкулы і асобныя эцюды, прысвечаныя лепшым спевакам, казачнікам, асобным цікавым сюжэтам, рэдкім творам. Усё гэта (найбольш каштоўныя ўзоры вусна-паэтычных твораў) увойдзе ў калектыўную манаграфію, прысвечаную Гервятам і ваколіцы, якую плануюць выдаць сумесна Інстытут літоўскай мовы і літаратуры АН ЛССР і літоўскае «Таварыства па ахове помнікаў і краязнаўству».

Нялішне ўспомніць надзвычай плённую збіральніцкую і навукова-выдавецкую работу літоўскага «Таварыства па ахове помнікаў і краязнаўству». Нягледзячы на тое, што работа вядзецца на грамадскіх пачатках (штатнымі работнікамі таварыства з'яўляюцца толькі намеснік старшыні і чатыры кансультанты), кожны год, пачынаючы з 1963 года, таварыства праводзіць вялікія комплексныя экспедыцыі, на матэрыялах якіх ужо выдадзена чатыры манаграфіі: «Зервінас» (Варэнскі раён), «Ігналінскі край» (Ігналінскі раён), «Дзевянішкес» (Эйшышскі раён), «Аколіца Рымшэ і Гайдэ» (Ігналінскі раён). Пятая манаграфія знаходзіцца ўжо ў выдавецтве, дзве наступныя дапрацоўваюцца.

Штогод ад аматараў літоўскай народнай паэзіі паступае да 20 тысяч запісаў вусна-паэтычных твораў, што дае вялікі матэрыял для ўсебаковых даследаванняў.

Вопыт работы літоўскіх краязнаўцаў нам патрэбна ўзяць за ўзор, і чым больш рупліва папрацуем мы у гэтым кірунку, тым больш шэдэўраў народнага мастацтва захаваем ад забыцця.

У заключэнне трэба сказаць, што літоўскія фалькларысты адзначалі вельмі прыязную атмасферу, якая садзейнічала поспеху іх працы, даверлівае стаўленне да іх насельніцтва, яго традыцыйны інтэрнацыяналізм.

**Л. САЛАВЕЙ,**
**аспірантка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.**

**ІДЗЕ ЛЕТА**



КАМУ ПАШАНЦУЕ? Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

**НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ**

## Павел МАЦЕЎ

Павел Мацеў вядомы ў Балгарыі не толькі як адзін з лепшых сучасных паэтаў, але і як відны грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Працаваў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Балгарыі, галоўным рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса «Септэмвры», а з 1964 года з'яўляецца міністрам культуры НРБ. Член ЦК БКП і прадстаўнік (дэпутат) Народнага Сходу НРБ. Заслужаны дзеяч культуры Балгарыі, лаўрэат Дзімітроўскай прэміі.

Нарадзіўся Павел Мацеў у 1924 годзе ў вёсцы Арызава Старазагорскай акругі. Друкавацца пачаў у 1947 годзе. Выдаў кнігі паэзіі «У страю» (1951), «Ясныя дні» (1953), «Доўг» (1955), «З верай у людзей» (1959), «Чалавечая трывога» (1960), «Час, Радзіма, любоў» (1962), «Радаслоўе» (1963), «Чайкі адпачываюць на хвалях» (1965), «Прасвятленні» (1965) і інш. Вершы, якія прапануюцца ўвазе чытачоў, узяты з новай кнігі паэта «Незняважаны свет» (1969).

### АКОЛЧЫЦА

*Хрысту БОЦЕВУ*

Тут рана мне балгарская баліць.
Радзіма-маці тужыць тут
 няўцешна.
Каля скалы, крутой, як абеліск,
праходзіць лёс маёй зямлі
 мяцежнай.
Тут, верныя жалобе, узраслі
са слёз народных кветкі між
 камення.
Бясстрашнай смерцю гэтай пачалі
мы пераможны шлях да
 вызвалення.

Тут не адзін свае пачуцці змяў,
каб новыя ўскрынічылі, як рэкі.
Адсюль мая балгарская зямля
паверыла ў паэзію навекі...

А рана мне як і раней баліць.
Трагічна сцежку строма абрывае.
Паэт у смерці гэткай, можа быць,
сваё скупое шчасце адкрывае.

●

Сон кароткі мой і неспакойны.
Дзень — і трудны і даўгі як год.
Веру, што паэт і сёння воін
перад тварам роспачных нягод.

Мой рэальны свет такі
 трывожны —
на спакой надзей мне не дае.
І з бясхмарных даляў — знае
 кожны —
немагчыма дні вярнуць свае.

І любоў мая завецца Мука.
Для мяне, самотнага, яна —
самая ўнушальная зарука,
самая балючая віна.

Можа ў позніх кветках і не бачу
мудрасці вялікай. Ды калі
хоць на міг сваю любоў
 я страчу —
страчу ўсё, што маю на зямлі.
І па смерці — брат братве
 салдацкай —
адзіноты не жадаю знаць.
А хацеў бы у магіле брацкай
між сяброў-паплечнікаў ляжаць.

●

Вечарэе.
Ціха і туманна.
Ад айвы праменіцца сяйво.
Добры вечар!
І цалуе мама
сына пасівелага свайго.

І цалуе мама...
У далонях —
непаголены мужчынскі твар.
А на вейках слёзы, што да сёння
берагла як самы лепшы дар.

Ставіць лубку яблыкаў даспелых,
брынзу і салодкую айву.
Клёкат слоў, крыху незразумелых,
слухаю, схіліўшы галаву.

Быццам і знаток балгарскай мовы,
а не проста разгадаць сакрэт,
як раджаюцца ад шчасця словы —
дзіўныя, як гэты дзіўны свет...

Дзесьці тут маленства
 нерастратнасць:
вол, аўчарка, сон у будане...
Добры вечар!
І цалуе радасць
мамінымі вуснамі мяне.

З балгарскай мовы пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.

Аколчыца — вяршыня ў Балканах, на якой загінуў Хрыста Боцеў.

## НОВАЯ ТЭАТРАЛЬНАЯ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ

*У Ленінградскім дзяржаўным інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі ўпершыню пачата падрыхтоўка эканамістаў — арганізатараў тэатральнай справы. Новае аддзяленне адкрыта пры кафедры гісторыі і тэорыі савецкага мастацтва.*

*Чым жа выклікана неабходнасць падрыхтоўкі спецыялістаў такога профілю і якія задачы іх навучання? У свой час У. Неміровіч-Данчанка адзначаў, што тэатральны калектыў — «гэта, па-першае, мастацтва само па сабе, а па-другое, арганізацыя яго. Людзі мастацтва і людзі, якія арганізоўваюць яго». Навука аб арганізацыі працы і кіравання, якая хутка развіваецца, не абмяжоўваючыся вытворчай сферай, усё больш актыўна ўрываецца ў галіну творчай працы. Але калі заканамернасці вытворчасці паддаюцца аналізу, то даследваць творчы працэс невымерна складаней.*

*Эканоміка і арганізацыя працы закліка765ны стварыць у тэатры ўмовы максімальна спрыяльныя для творчасці. Дырэктар сучаснага тэатра павінен не толькі любіць тэатральнае мастацтва, а і разбірацца ў спецыфіцы ўсіх тэатральных прафесій. Ён павінен ведаць псіхалогію творчай працы, усе тонкасці тэатральнага механізма, павінен умець рэагаваць на ўсе перабоі ў яго рабоце.*

*Звычайна практычнае мастацтва кіраўніцтва вывучалася толькі на вопыце. Цяпер распрацоўваюцца і паспяхова выкарыстоўваюцца метадычныя прыёмы, якія дапамагаюць авалодаць навыкамі кіравання ў ходзе вучобы.*

*Кім павінен быць кіраўнік тэатральнай вытворчасці? Акцёрам, рэжысёрам, тэарэтыкам тэатра, эканамістам?*

*Так, і акцёрам, і рэжысёрам, і тэатразнаўцам, і эканамістам, і галоўнае — ён павінен ведаць сучасныя метады кіраўніцтва і кіравання калектывам і перш за ўсё — творчым калектывам.*

*Студэнты новага аддзялення інстытута вывучаюць тэорыю кіравання, сацыяльныя і псіхалагічныя аспекты кіраўніцтва. Эканамічная і матэматычная падрыхтоўка спалучаецца з глыбокім вывучэннем усіх бакоў дзейнасці тэатра. Выпускнікі факультэта, якія выбралі сваёй спецыяльнасцю эканоміку і арганізацыю тэатральнай справы, будуць прафесіянальна валодаць ведамі па гісторыі савецкага і зарубежнага тэатра, літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва. Студэнты будуць вывучаць праблемы сучаснай савецкай і сусветнай драматургіі і рэжысуры, авалодваць асновамі акцёрскага майстэрства.*

ЮРЫЙ АРЛОЎ,
(АДН).

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку БССР Кандрату Крапіве з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Ганны Кандратаўны Атраховіч.

*Па той бок*

## МАСТАЦТВА? СМЕЦЦЕ!

Толькі калі выраджаецца сапраўднае мастацтва, яго пачынаюць шукаць там, дзе яму і быць немагчыма. Толькі сапсаваны густ і хворае ўяўленне могуць выклікаць замілаванне і «эстэтычнае» задавальненне ад сузірання разбітых, разбураных або знявечаных рэчаў.

Аднак заходнегерманская газета «Ды Вельт» аднойчы «ашчаслівіла» сваіх чытачоў здымкамі, якія мы перадрукоўваем.

Гэтыя, як аказалася, рэпрадукцыі «карцін» суправаджаліся тлумачальным тэкстам:

«Руіны, жалезны лом, разбітае аконнае шкло, усё, ад чаго мы звычайна адварочваем свой позірк, пры пэўным падыходзе да гэтых рэчаў, пад адпаведным вуглом погляду або пры спрыяльным асвятленні, могуць раптам ператварыцца ў дзівосныя скульптуры або карціны, якія толькі што можа ўявіць сабе чалавечая фантазія і ўяўленне. Гэты новы «від мастацтва» называецца «Арт трувэ», што па-французску азначае «знойдзенае мастацтва» і зарадзілася яно ў Англіі.

І вось стары, паўразбураны, даўно пустуючы фабрычны будынак у Оклендзе (штат Каліфорнія, ЗША), які стаіць толькі ў чаканні канчатковага зносу, а пакуль служыць месцам для гульняў вулічных хлапчукоў і ў якім толькі выпадкова захавалася частка аконных шыб, аказаўся **месцам знаходкі і адкрыцця гэтых арыгінальных карцін.**



Аўтар лічыць, што стварыў партрэт дэ Голя...

Зубцы, вуглы, прамыя і паўкруглыя лініі зліліся ў мудрагелістыя фігуры, якія могуць здавацца рознымі рэчамі.

Рэаліст будзе з поўнай падставай сцвярджаць, што гэта ўсяго толькі выбітыя аконныя шыбы. Аднак той, хто валодае дастатковай фантазіяй, убачыць тут многа цікавага.

На левай карціне са здзіўленнем можна знайсці галаву птушкі. А магчыма каму-небудзь гэта здасца дзівосна падобным на вядомыя карыкатуры Шарля дэ Голя?

Пры ўважлівым разглядáнні першай карціны хочацца толькі ўдакладніць малюнак гэта ці мядзведзяня з тыповай дзіцячай кніжкі?

А магчыма хто-небудзь знойдзе тут яшчэ якое-небудзь падабенства».

Безумоўна, размяшчэнне рэчаў на сметніку і іх абрысы могуць быць самыя разнастайныя і мудрагелістыя. Але спрабаваць выдаць гэта за мастацтва... Хіба гэта не здзек над сапраўдным мастацтвам і яго майстрамі?

Н. БАРЫСАЎ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

**Георгій ЮРЧАНКА**

## АПОШНЯЯ РАЗМОВА

*Раман САБАЛЕНКА*

Як НЕ з самае раніцы Камарчук і Варшавяк прынішклі за газетным столікам і ўнурыліся ў сябе, адзін насупраткі другога. Думак у абодвух чаўплося неймаверна, але абодва ніяк не маглі прабуркнуцца словамі.

— Жонка, — свідравала ў галаве Камарчука.

— Жонка, — значылася ў вачах Варшавяка.

А за гэтым думкі шнуравалі ў праціўных кірунках. Камарчук не мог даўмецца, што яму не стачала ў Электрыне. Ніколі не бачыў яе распатланай, усяго ў ёй было належна як спераду, так і ззаду. А па ўмеру поўных ікрах слізгала зайздрасць не аднаго мужчыны. Да ўсяго і цесць пастараўся: адваліў трохпакаёвую кватэру — гэта на дваіх! А вось ўрупіўся ў сваё: не буду з ёй жыць— і кропка. Чаму накруціўся гэткі вырахунак, не мог даўмецца.

Варшавяк не спаталяў уцяміць, што яго вабіла ў Камарчуковай жонцы. Здаецца, і на рост магла б не паскупіцца, і формы б можна круглейшыя. А вось жа невідушчая сіла цегла да яе. І сэрца прагла: жыць толькі з Электрынай — і больш нічога.

Варшавяк бачыў, што Камарчук усяляк цураецца жонкі. Камарчук ведаў, што Варшавяку без Электрыны жыццё не ў жыццё.

Сёння яны сыйшліся на канчатковы абгавор. Але гутору не патрымоўвалася. Ацвярэз бы дзесьці заблукаў.

— Тэк-тэк-тэк... — каторы раз пачынаў Камарчук, а далей словам як зарвала.

— Знацца, вось... — спрабаваў знайсці якоесь апірышча Варшавяк, ды болей яму нібы засланіла.

Камарчук паправіў пасконныя штаны, якія не сказаць каб пасавалі да японскай кашулі пад зулускім гальштукам.

— Выфранціўся, — нібы мільгатнула Варшавяку. Але ён у сваю чаргу, прысеўшы на карпушкі, ззуў угандскія чаравікі і застаўся ў парагвайскіх шкарпэтках.

— Выдыгаецца, — прахупіла ў галаве Камарчука.

Неўпрыкмець глянулі разам на загэркі. Час сігаваў вокамгнення: незаўважна нахапіўся вечар.

Быў яшчэ адзін рупеск, які карцеў абодвум.

— Як пакінуць уласную кватэру? — вярэдзіўся Камарчук.

— Як прыйсці пад чужы дах? — смыкавала Варшавяка.

Раптам скрыгнуў замок. На парозе стаяла Электрына і гарэзліва паглядала то на аднаго, то на другога. Камарчук убачыў, што нелюдзімасць суперніка як рукой зняло, і стаў жвава нацягваць паліто. Яго ніхто не затрымліваў. Прычыняючы дзверы, напослед узяў напрыкмет, што Варшавяк пачаў рашуча развязваць свой гальштук, а Электрына радасна яму пасміхалася...

## ЭХ, ЛЕТА-ЛЕЦЕЙКА...

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.



Сувенір з поўдня






Памыліўся




Параможцы спартакіяды ў доме адпачынку



## З ПАДСЛУХАНАГА

**БАБУЛЯ І ЎНУЧКА**

*— Ірачка, табе сёння пайшоў шосты годзік.*

*— А куды ён, бабуля, пайшоў: сюды ці туды?*

**СУСЕДКІ**

*— І не кажыце, мілая, мне куды горш. У вас каторы фартушком вытрыцца, другі — падалком, а трэці сам абсохне. Маім жа кожнаму падавай ручнік!*

**У ТЭАТРЫ**

*Старая гардэробшчыца сваёй маладой памочніцы:*

*— Чаго ж ты стаіш? Хіба не бачыш, што людзі хочуць павесіцца!*

Запісаў Ул. МЯЖЭВІЧ.

**НА ВАКЗАЛЕ**

*— Дзед, чаму ты газету дагары чытаеш?*

*— А ты што, думаеш, лёгка гэта рабіць? — адказвае, дрэмлючы, дзед.*

□

*— Бабка, пазыч, у нас не хапае, — гавораць двое, падыходзячы да старой.*

*— Можаце і не гаварыць, яно і так відаць, што не хапае.*

□

*— Бабулька, ты куды едзеш?*
*— У вёску.*
*— Да дачкі ці да сына?*
*— Да суседзяў былых.*
*— А чаго ж?*
*— У горадзе ніяк не зразумею, будзе вайна ці не, а там дык пэўна ведаюць.*

Запісаў Г. КАХАНОЎСКІ.

□

*У доме спяваюць кенары. Госць просіць гаспадыню:*

*— Ці нельга зрабіць, каб яны спявалі цішэй?*

□

*Пра аднаго шафёра жартаўнікі гаварылі:*

*— Гэта ж Шолам-Алейхем на колах!*

□

*Міша пытаецца ў брата:*

*— Коля, ты не ведаеш, дзе Альпы?*

*— Спытайся ў мамы. Гэта яна заўсёды ўсё хавае.*

Запісаў Р. РЭЛЕС.

**ДАЎ СЛОВА**

*Мужчына да буфетчыцы рэстарана:*

*— Налі, любачка, шкляначку.*

*— А вы сядзьце за стол, вам афіцыянтка падасць.*

*— Не магу, дарагая. Даў жонцы слова, што ніколі больш тут не буду сядзець.*

Запісаў А. ПІВАВАРАЎ.

**Аляксандр АЛЯКСЕЙЧЫК**

## ЭМАНСІПАЦЫЯ

*ГУМАРЭСКА*

Неяк я ажаніўся. Мы былі цудоўнай парай і важылі абодва 130 кілаграмаў. Яна — 50, я — 80.

Аднойчы мы позна вярталіся дадому.

— Ах, любы, я прытамілася,—сказала яна.

Я тут жа падхапіў яе на рукі і ўзляцеў на наш пяты паверх.

Прайшоў год.

Мы па-ранейшаму былі цудоўнай парай і па-ранейшаму важылі 130 кілаграмаў. Яна — 60, я — 70.

Аднойчы вярталіся мы дадому.

— Ах, любы, я прытамілася,—сказала яна.

Я ўзяў яе на рукі і пайшоў з ёй на пяты паверх.

Прайшоў яшчэ год.

Мы, як і раней, важылі 130 кілаграмаў. Яна — 70, я — 60.

Аднойчы мы вярталіся дадому.

— Ах, любы, я прытамілася,—сказала яна.

Я ўздыхнуў, падняў яе і за паўгадзіны неяк дабраўся да другога паверха. Там я папрасіў яе злезці.

І яшчэ прайшоў год.

Мы ўсё яшчэ важылі 130 кілаграмаў. Яна — 80, я — 50.

Аднойчы мы вярталіся дадому.

— Ах, любая, як я прытаміўся, — чамусьці сказаў я.

І раптам... І раптам яна падняла мяне на рукі. І да самага пятага паверха я ўсхвалявана думаў аб тым, як добра, што мы, мужчыны, эмансіпіравалі жанчын.

## БРЫГАДЗІР СТАН

**Петру КЭРАРЭ**

**Нядоўга брыгадзірыў Стан,**
**А справы ўжо здае другому:**
**Даведнік тоўсты, як раман,**
**Дзве накладныя на салому,**
**Тры фікусы, заявак пуд,**
**Сем зэдлікаў і стол пузаты,**
**Яшчэ — абноўлены статут,**
**Адкуль любіў ён браць цытаты,**
**Два недапісаных лісты,**
**Партфель і ключ ад кабінета**
**І коніка, што сам заўжды**
**Вязе адразу да буфета.**

Пераклад з малдаўскай.

## КАЛАМБУРЫ

**Павел ШЫБУТ**

ЯНОТ

Салаўю хваліўся раз янот:
— Спяваў бы, ды не ведаю я нот!

ЗАГАД

Казала гаспадыні мыла:
— Каб без мяне не мыла!

НЕПАГАДЗЬ

Сыпанула з неба градам
І шкоды шмат прынесла градам.

ПАГРОЗА

Індык сварыўся так на качку:
— Не выканаеш план, дык дам накачку!

КРЫТЫК

Стараўся браць на мушку
Малюсенькую мушку.

## НА ПАРНАСЕ

**Савось АВОСЬ**

НЕСПАКОЙНЫ КРЫТЫК

**Не есца і не спіцца —**
**Запала думка ў голаў:**
**Уставіць палкі ў спіцы**
**Літаратурных колаў.**

ВЕРЛІБРЫСТ

**Даўно ўжо рыфмамі я не грашу,**
**Забыўся на розныя спробы там!**
**Для ўсіх кантынентаў верлібры пішу—**
**Пры перакладзе — палёгка робатам!**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856. АТ 21693

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.